


*Уладзімір Арлоў*

# ЕЎФРАСІННЯ ПОЛАЦКАЯ

---

# ЕВФРОСИНИЯ ПОЛОЦКАЯ



СВЯТЫЯ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

*Уладзімір Арлоў*

# ЕЎФРАСІННЯ ПОЛАЦКАЯ

# ЕВФРОСИНИЯ ПОЛОЦКАЯ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
МП «СЛАВЯНЕ»
1992

ББК 84 Бел7
А 82

Серыя заснавана ў 1992 годзе

Тэкст «Жыція святой Еўфрасінні Полацкай»
падрыхтаваў да друку на старажытнарускай мове
і пераклаў на беларускую мову
*Аляксей Мельнікаў*

За дапамогу ў падборы ілюстрацый аўтар выказвае падзяку
доктару гістарычных навук Георгію Штыхаву
і навуковаму супрацоўніку Інстытута гісторыі АН Беларусі Сяргею Тарасаву,
а таксама полацкаму калекцыянеру Эдуарду Давыдоўскаму.

Книга о патронессе Белоруссии — святой Евфросинии Полоцкой.

Полоцкая княжна Предслава (XII в.) в юные годы постриглась в монастырь под именем Евфросинии, стала выдающейся просветительницей, а впоследствии была причислена к сонму святых и признана небесной покровительницей Белорусской земли.

Кроме популярного очерка жизни и духовных подвигов, в книгу включено ее «Житие», обращенные к Евфросинии Полоцкой молитвы, а также рассказ о загадочном исчезновении и поисках национальной реликвии — напрестольного креста, созданного по заказу подвижницы в 1161 году.

А $\frac{4702120201-067}{М 302(03)-92}$ БЗ 145—92

ISBN 5-340-01238-7



## Сьвятая Еўфрасіньня Вялікая, Князёўна Полацкая (23 траўня)

**Трапар, сьпеў 8.**

**Прыкладам тваім, Маці, Прасьветніца Беларусі, можна збавіціся, бо ты ўзяла крыж і пайшла за Хрыстом і прыкладна вучыла, як трэба грэбаваць целам, а ходацца за душу несьмяротную. Дзеля гэтага, дастойная Еўфрасіньня Вялікая, князёўна Полацкая, твой дух будзе радавацца разам з анёламі.**

Праваслаўны малітоўнік
Таронта, 1990





# Еўфрасіння Полацкая

## «Яко луча солнечная...»



Еўфрасіння Полацкая. Без гэтага імя немагчыма ўявіць не толькі панараму духоўнага жыцця на ўсходнеславянскіх землях у XII стагоддзі, але і ўсю шматвяковую гісторыю Беларусі. Князёўна, ігуменння, выдатная асветніца, пра якую «Жыціе» кажа, што яна — «небопарный орел, попаривши от Запада и до Востока, яко луча солнечная, просветивши всю землю Полоцкую», святая Еўфрасіння пакінула па сабе вечную памяць у душы народа.

Паміж намі і часам, калі жыла знакамітая палачанка, ляжыць больш за восем стагоддзяў. Не дзіва, што гісторыя захавала пра яе не надта багатыя звесткі, але і яны дазваляюць убачыць агульнаеўрапейскую значнасць асобы гэтай жанчыны-падзвіжніцы. Ахвярная праца святой Еўфрасінні, як і яе славутых сучаснікаў Кірылы Тураўскага і Клімента Смаляціча, абумовіла высокі культурны ўздым на зямлі нашых продкаў.

Ужо ў юнацтве Еўфрасіння перапісвала і перакладала з іншых моваў кнігі, сама пісала арыгінальныя творы. Заснаваўшы ў Полацку два манастыры, яна надала пашырэнню пісьмовага слова вялікі размах. Гісторыкі звязваюць з яе імем полацкае летапісанне і збіранне бібліятэкі Сафійскага сабора. Князёўна-ігуменння рупілася, каб вучні манастырскіх школ разам з граматаю навучаліся «чистоте душевней и бестрастию телесному».

Мудрасць Еўфрасінні выявілася і ў тым, што яна не стала на шлях барацьбы са старымі мясцовымі традыцыямі, а імкнулася асвяціць усё, што магло служыць хрысціянству.

Знаходзячыся ў цэнтры духоўнага жыцця Полацкага княства, яна нястомна збірала вакол сябе таленавітых людзей, стала нашай першаю мецэнаткай. На яе заказ дойлід Іаан пабудаваў сусветна вядомую царкву Спаса, якую лічыць дасканалым узорам полацкай архітэктурнай школы. Майстар-ювелір Лазар Богша зрабіў для Еўфрасінні свой слынны крыж — неацэнны твор старажытнабеларускага ўжытковага мастацтва. Яна спрыяла стварэнню унікальных фрэскавых размалёвак Спасаўскага храма.

Вялікім быў уплыў ігуменні на палітыку Полацка. Падзвіжніца ўздымала голас супроць княскіх усобіц, папярэджвала, што братазабойчыя войны могуць прывесці Бацькаўшчыну да гібелі.

Багаты плён яе працы высока падымаў аўтарытэт Полацкага княства і ўсіх земляў нашых продкаў у вачах Візантыі і іншых краін. Прыклад Еўфрасінні натхняў яе землякоў і наступнікаў: усходнеславянскага першадрукара і перакладчыка Бібліі на зразумелую народу мову Францішка Скарыну, перакладчыка і выдаўца беларускага Евангелля Васіля Цяпінскага, паэта і асветніка Сімяона Полацкага...

Пабожнае жыццё Еўфрасінні, яе бязмежнае самаадрачэнне прычыніліся да росквіту ў беларускім народзе хрысціянскіх цнотаў.

Чаму ж да самага нядаўняга часу мы не маглі сустрэць згадак пра падзвіжніцу ні ў музейных экспазіцыях, ні ў

школьных падручніках па гісторыі Беларусі? Чаму маўчыць пра яе пяцітомная акадэмічная «Гісторыя БССР»?

Еўфрасіння Полацкая стала адной з першых кананізаваных (прылічаных да святых) жанчын на ўсходнеславянскіх землях. Зразумела, што ў перыяд панавання «ваяўнічага атэізму» яе дзейнасць замоўчвалася або малявалася ў скажоным святле. Вядомы фальсіфікатар гісторыі Беларусі, аўтар падручніка для сярэдняй школы Л.Абэцэдарскі нават дазваляў сабе называць выдатную асветніцу цемрашалкай.

У апошнія два дзесяцігоддзі беларускія гісторыкі, а таксама пісьменнікі, мастакі, журналісты нямала зрабілі, каб сарваць з імя Еўфрасінні недарэчныя ды зняважлівыя ярлыкі і незаплямленым вярнуць яго нашай гістарычнай свядомасці. Наогул жа, літаратура, дзе падаюцца звесткі пра жыццё і подзвігі святой, налічвае каля 150 назваў на беларускай, лацінскай, польскай, нямецкай, украінскай, ангельскай, расейскай і царкоўнаславянскай мовах.

Асноўная крыніца біяграфічных сведчанняў пра асветніцу — яе «Жыціе», адзін з найкаштоўнейшых помнікаў старажытнабеларускай літаратуры, створаны ў канцы XII стагоддзя ў Полацку невядомым аўтарам. Ім мог быць малодшы сучаснік Еўфрасінні, манах або ігумен аднаго з полацкіх манастыроў.

«Жыціе Еўфрасінні Полацкай» дайшло да нас, прынамсі, у шасці рэдакцыях, прадстаўленых болей чым сотняю спісаў, самы даўні з якіх належыць да ХУІ стагоддзя. Шэраг гэтых спісаў захоўваецца ў Публічнай бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбурзе.

Адсутнасць першапачатковага тэксту «Жыція», як і ранніх ягоных спісаў, істотна ўскладняе даследаванне жыццёвага шляху падзвіжніцы. Гісторыкі расейскае царквы сцвярджаюць, што да мітрапаліта Макарыя жыццяпіс полацкай святой у Маскоўскай Русі не сустракаецца, бо для гэтых земляў Еўфрасіння была чужая. Макарый, захоплены тэорыяй пра Маскву як трэці Рым, пачаў збіраць жыцці немаскоўскіх святых. Так «Жыціе» нашай суайчынніцы

трапіла ў ягоныя, укладзеныя ў 1530—1540 гады «Чэцці-Мінеі»*, потым у «Ступенную кнігу царскага радаслоўя» і ў «Кнігу жыццій святых» Дзмітрыя Растоўскага. Кожны раз тэкст рэдагаваўся ў залежнасці ад характару, ідэйнай і стылёвай накіраванасці гэтых зборнікаў. У ХУІІ стагоддзі былі створаныя і дзве пралогавыя (скарочаныя) рэдакцыі твора.

Цяжка меркаваць, наколькі пашыраны быў жыццяпіс святой Еўфрасінні ў перыяд Уніі**, бо пасля далучэння Беларусі да Расейскае імперыі і асабліва пасля гвалтоўнага скасавання уніяцтва ў 1839 годзе былі спаленыя дзесяткі тысяч беларускіх рэлігійных кніг і рукапісаў. Ёсць звесткі, што ў сярэдзіне мінулага стагоддзя адзін са спісаў «Жыція» ХІУ стагоддзя яшчэ захоўваўся ў пергаменным рукапісе ва уніяцкім базыльянскім кляштары ў Львове.

«Жыціе» напісана царкоўнаславянскай моваю старажытнарускай рэдакцыі. Яно пачынаецца рытарычным уступам, потым ідзе аповяд пра жыццёвы шлях святой як пра духоўнае ўзыходжанне. Каштоўная асаблівасць твора — спроба аўтара паказаць характар падзвіжніцы. Апавяданне грунтуецца на сапраўдных гістарычных фактах, прычым падзеі падаюцца ў храналагічнай паслядоўнасці. Змешчаныя ў «Жыціі» маналогі і дыялогі дазваляюць раскрыць унутраны свет полацкай ігуменні. З гісторыка-мастацкай біяграфіяй спалучаюцца іншыя літаратурныя жанры: хаджэнне (апісанне падарожжа ў Святую Зямлю) і пахвала. Самая пашыраная рэдакцыя «Жыція» — чацвёртая, дзе падаецца генеалогія роду Еўфрасінні.

---

* Прызначаныя дзеля штодзённага чытання зборнікі павучальнага зместу, якія ўключалі жыціі, казані, «словы» і іншыя творы, укладзеныя па месяцах у адпаведнасці з днямі ўшанавання царквою памяці кожнага святога.

** Царкоўная унія — аб'яднанне праваслаўнай і каталіцкай цэркваў на ўмовах захавання праваслаўнай царквой сваіх абрадаў і набажэнства на роднай мове, але з прызнаннем вяршэнства папы рымскага. На беларускіх і ўкраінскіх землях Унія была ўведзеная пасля Берасцейскага сабора 1596 года.

Аўтар «Жыція» ў адпаведнасці з канонамі жанру не меў мэты падрабязна і дакладна распавесці пра жыццё святой. Яго найбольш прываблівалі моманты, непасрэдна звязаныя з хрысціянскай мараллю і адпаведным тыпам паводзін. Таму больш поўна ўзнавіць асноўныя вехі зямнога шляху святой Еўфрасінні ды іхнія даты можна, толькі супастаўляючы яе жыццяпіс з усходнеславянскімі летапісамі, візантыйскімі хронікамі, іншымі гістарычнымі крыніцамі. Цікавыя звесткі пра асветніцу і яе светапогляд ёсць у прысвечаным ёй спеўным цыкле XII стагоддзя.

## Як хрысцілася Полацкае княства



Гаворачы пра нашу першую святую, мы ніяк не абмінем пытання, калі і як прынялі хрысціянства Полацк ды іншыя беларускія землі.

Афіцыйная гісторыя з яе міфамі, створанымі стагоддзі таму, але патрэбнымі дзеля імперскае палітыкі і сёння, абвяшчае Полацкае княства часткаю Кіеўскай Русі. Адсюль як бы само сабою зразумела, што хрышчэнне нашых земляў нічым не адрознівалася ад гэткай падзеі ў Кіеве ці ў Ноўгарадзе і адбылося дзякуючы князю Уладзіміру. Як вядома, кіянаў Уладзімір загадаў хрысціць у Дняпры, сказаўшы пры гэтым: «Хто не са мною, той супроць мяне». У Ноўгарадзе разыгралася крывавая драма: там кіеўскія ваяводы Дабрыня і Пуцята хрысцілі агнём і мячом.

Аднак на старонках усіх вядомых гісторыкам летапісаў няма ніякіх звестак пра тое, як прыняла хрост Полацкая зямля. Значыцца, гвалту тут не было, бо абмінуць такую падзею летапісцы не маглі. Праліваючы кроў паганцаў (язычнікаў) у Ноўгарадзе, кіеўскі князь замацоўваў правы на сваю вальналюбную вотчыну, падпарадкоўваючы яе яшчэ і духоўна. Такіх правоў на Полацк ён не меў, як і дастатковай для барацьбы з палачанамі збройнай сілы.

У Полацку ў апошнія гады жыцця Уладзіміра валадарыў князь Брачыслаў. Ён вёў незалежную палітыку і, мяркуючы па варажскіх сагах і ўсходнеславянскіх летапісах, падтрымліваў больш трывалыя сувязі не з Кіеўскай Руссю, а са скандынаўскім светам. Беларускі гісторык Сяргей Тарасаў зусім слушна лічыць, што полацкія князі не мелі патрэбы сцвярджаць сваю ўладу пераводам у хрысціянства адразу ўсіх жыхароў княства. Тым не менш яны, не хочучы бачыць сваю зямлю паганскім востравам сярод хрысціянскай Еўропы і добра разумеючы магчымасці, якія несла новая вера дзяржаве і народу, прынялі яе і спрыялі натуральнаму пашырэнню Хрыстовага вучэння на ўсім абшары княства. Прычым адбывалася гэта пастулова, і доўгі час хрысціянства мірна суіснавала з паганскім светапоглядам.

Слова Божае ішло сюды і з поўдня, і з захаду, і з поўначы. Хрысціянамі, магчыма, былі ўжо першы вядомы з летапісаў полацкі князь Рагвалод (на думку шэрагу вучоных, выхадзец з воласці Рогаланд на поўначы Нарвегіі) і ягоная дачка Рагнеда, сілаю ўзятая будучым Хрысціцелем, а тады яшчэ паганінам Уладзімірам за жонку. Летапісцы паведамляюць, што, пабраўшыся з дачкою візантыйскага імператара і стаўшы хрысціянінам, кіеўскі князь прапанаваў Рагнедзе выбраць сабе новага мужа з ягонага акружэння. Ганарлівая дачка Рагвалода адмовілася, абвясціўшы, што ў такім разе лепей зробіцца Хрыстоваю нявестаю. Прыняўшы пострыг пад імем Анастасіі, яна стала першаю на ўсходнеславянскіх землях манашкаю.

Не выключана, што першы ва ўсходніх славянаў манастыр узнік менавіта ў Полацкім княстве. Падставы для такога меркавання дае запісаная ў XIII стагоддзі «Сага пра хрышчэнне», якая апавядае пра падзеі канца X стагоддзя. Яе герой, прылічаны пасля смерці да святых Торвальд Вандроўнік, хрысціў Ісландыю, адкуль потым выправіўся ў Ерусалім. Заслужыўшы вялікую пашану ў канстанцінопальскага патрыярха, паломнік вяртаўся на радзіму праз усходнеславянскія землі. «У Русіі» ён заснаваў манастыр Іаана

Хрысціцеля. Паводле сагі, Торвальд сканаў, не дасягнуўшы Бацькаўшчыны, і быў пахаваны «ў высокай гары... каля царквы Іаана Хрысціцеля, непадалёк Полацка». Гэтая сага — першая па часе крыніца, дзе згадваюцца хрысціяне на полацкіх землях.

Узнікненне полацкага манастыра Іаана Хрысціцеля (Папярэдніка) на Востраве, пра які ёсць шматлікія сведчанні, гісторыкі адносяць да XII стагоддзя. Але рэшткі самога манастыра дагэтуль не знойдзеныя, і казаць пра больш дакладны час яго заснавання можна будзе толькі пасля археалагічных даследаванняў. Пакуль што яны вызначылі адно месцы пошукаў. Што да «высокай гары», дык яна існуе на левым беразе Дзвіны, насупроць Сафійскага сабора, і сёння.

Няма ніякіх доказаў, што Полацкая зямля прымала хрост ад Кіева. Затое ёсць дадзеныя, якія сведчаць пра адваротнае. «Аповесць мінулых часоў», гаворачы пра падзеі ў Полацку, пад 1007 годам змяшчае паведамленне «Перанесены святыя ў святую Багародзіцу». Першыя кіеўскія (а потым агульнарускія) святыя Барыс і Глеб кананізаваныя, як лічаць сучасныя вучоныя, пасля 1020 года, а перанесеныя ў царкву ў 1072 годзе, пра што ёсць запіс у «Аповесці мінулых часоў». Іншых святых ні ў Кіеве, ні ў Ноўгарадзе тады не было і не магло быць, бо царква Кіеўскай Русі знаходзілася ў поўнай залежнасці ад Канстанцінопаля, дзе зацвярджалі любую кананізацыю. С.Тарасаў мяркуе, што гаворка ў летапісе ідзе пра першых полацкіх і беларускіх святых, якімі маглі быць манашка Рагнеда-Анастасія, пабожны князь Ізяслаў і княжыч Усяслаў Ізяславіч, які памёр у дзіцячыя гады. Магчыма, да іх быў далучаны і святы Торвальд. Канстанцінопальскі патрыярх мог дазволіць кананізацыю мясцовых святых праз сваю зацікаўленасць у хрысціянізацыі Полацкай зямлі паводле ўсходняга абраду. Княства ж, безумоўна, хацела мець сваіх святых дзеля ўмацавання незалежнасці.

Дарэчы, у Полацку ўжо мог існаваць і храм Найсвяцейшай Багародзіцы, бо, як мы пазней даведаемся, у часы

Еўфрасінні цэркваў у гонар Божай Маці было ў горадзе дзве — старая і новая.

Першы вядомы нам полацкі епіскап Нікіфар быў грэкам. У 1092 годзе з дазволу канстанцінопальскага патрыярха ён стаў мітрапалітам кіеўскім. Значыцца, заняць епіскапскую катэдру ён мог таксама толькі з багаславення таго самага царкоўнага іерарха. Іначай кажучы, Нікіфар прыехаў у Полацк проста з Візантыі.

Усё сказанае вышэй, як і трывалыя сувязі Полацкага княства з Канстанцінопалем, што выяўляліся і ў дынастычных шлюбах, і ў магутным уплыве візантыйскае культуры, пераконваюць: новая вера прыйшла сюды непасрэдна з Візантыі.

Беларускія землі прынялі хрысціянства яшчэ да яго афіцыйнага падзелу на заходнюю і ўсходнюю плыні, які адбыўся ў 1054 годзе. Хрысціўшыся паводле грэцкага абраду, нашы далёкія продкі не адчувалі варожасці да вернікаў-лацінцаў. У XII стагоддзі, калі жыла Еўфрасіння, на ўсходзе славянства працягвалі пашырацца жыцці рымскіх святых. Асаблівую папулярнасць меў жыццяпіс Аляксея чалавека Божага. «Родам рымлянін» быў св.Меркуры Смаленскі. У суседнім з Полацкам Ноўгарадзе прылічылі да святых Антонія Рымляніна. Тым самым часам наўгародзец Кірык паведамляў, што гараджанкі хрысцілі дзяцей і ў сваіх, і ў варажскіх святароў.

Між іншым, сваяк святой Еўфрасінні візантыйскі імператар Мануіл Комнін вёў перамовы пра паяднанне цэркваў з рымскім папам.

Мы не ведаем на тагачасных беларускіх землях ніякай скіраванай супраць заходняга хрысціянства літаратуры. Няма слядоў такой непрыхільнасці і ў жыціях беларускіх святых, што яшчэ раз сведчыць пра ўласцівы продкам шляхетны дух талерантнасці.

## Калыска беларускай культуры



Радзіма Еўфрасінні — Полацкае княства, моцная раннефеадальная ўсходнеславянская дзяржава, якой два з паловаю стагоддзі кіравала самастойная дынастыя Рагвалодавічаў, або Ізяславічаў (калі лічыць ад князя Ізяслава — унука Рагвалода і сына Рагнеды).

У Падзвінні ў другой палове першага тысячагоддзя нашай эры адбывалася ўзаемадзеянне плямён крывічоў, дрыгавічоў і балтаў, што паклікала да жыцця новае этнічнае ўтварэнне — палачанаў. Праз княства, злучаючы Арабскі халіфат і Хазарыю з усходнімі славянамі і Скандынавіяй, праходзілі старадаўнія гандлёвыя шляхі. Выгоднае геаграфічнае становішча разам з інтэнсіўнымі этнічнымі працэсамі ды актыўнай палітыкай тутэйшых князёў і былі галоўнымі чыннікамі хуткага ўзвышэння Полацкай зямлі. У XII стагоддзі яна сваёй тэрыторыяй была роўная такім буйным тагачасным заходнееўрапейскім дзяржавам, як герцагства Баварскае і каралеўства Партугальскае. Васаламі Полацка былі размешчаныя ў балцкіх землях гарады Герцыка (Герцыке) і Куканос (Кукенойс). Даніну плацілі яму плямёны ліваў і летаў, якія жылі ніжэй па Дзвіне. Полацкія свецкія і духоўныя валадары заўсёды праяўлялі да сваіх даннікаў-паганцаў верацярпімасць. Відаць, гэта было вынікам моцных пазіцый дахрысціянскай ідэалогіі ў самім княстве.

Дзейнасць полацкіх князёў скіроўвалася на ўзмацненне дзяржавы і пашырэнне яе межаў. Красамоўна кажа аб палітычнай стабільнасці Полацкай зямлі тое, што цэлае стагоддзе ёю кіравалі толькі два князі: Брачыслаў Ізяславіч (1001—1044) і ягоны сын Усяслаў Чарадзей (1044—1101). Пры Усяславе княства дасягнула свайго найвышэйшага ўздыму. Тады ж быў пабудаваны Сафійскі сабор, трэці такі храм на ўсходзе славянства, які сімвалізаваў роўнасць По-

лацка з Кіевам і з Ноўгарадам. Дзяржаўны розум і патрыятызм полацкага князя ўславіў геніяльны аўтар «Слова пра паход Ігаравы»: «Всеслав князь людем судяше, князем грады рядяше... великому Хръсови* влъком путь прерыскаше. Тому въ Полотске позвониша заутренюю рано у святыя Софеи въ колоколы, а он въ Кыеве звон слыша». Дарэчы, гэты князь стаў правобразам былiннага Волха Усяславіча.

Пра міжнародны аўтарытэт Полацкай зямлі кажа блізкае сваяцтва Рагвалодавічаў з домам візантыйскіх імператараў Комнінаў. Дачка Усяслава Чарадзея была жонкаю кесара Аляксея.

Палітычным і эканамічным сэрцам княства, што стала гістарычнай прарадзімаю беларусаў, быў Полацк — адзін з самых старажытных славянскіх гарадоў. Упершыню ён прыгадваецца ў «Аповесці мінулых часоў» пад 862 годам, але дадзеныя археалогіі сведчаць, што горад мог узнікнуць, прынамсі, на стагоддзе раней.

У XI—XII стагоддзях тут квітнеюць гандаль і рамёствы. Уніз па Дзвіне, а затым па Варажскім моры полацкія купцы вязуць воск, мёд і футра. На мясцовым торжышчы можна сустрэць гасцей не толькі са старажытнарускіх гарадоў, але і з Візантыі, Прыбалтыкі. Археолагі налічваюць дзесяткі спецыяльнасцяў полацкіх майстроў. Развітымі былі кавальскае і ліцейнае рамяство, ганчарства, гарбарства і шавецтва. Сваімі вырабамі славіліся збройнікі і ювеліры, што валодалі шмат якімі прыёмамі апрацоўкі каляровых і высакародных металаў — каваннем, чаканкаю, цісненнем, філігранню, зерню.

Тагачасны Полацк з яго манастырамі і цэрквамі, з заснаванай каля 992 года епіскапскай катэдрай — буйны асяродак кніжнае навукі. Ніканаўскі летапіс невыпадкова паведамляе пра полацкага князя Ізяслава (памёр у 1001 годзе), што ён «прилежаша прочитанию» кніг. Доўгі час — пакуль не быў знойдзены вядомы Гнёздаўскі надпіс — пячатку з

---

* Хорс — у міфалогіі ўсходніх славян бог сонца, апякун земляробства.

імем гэтага князя-кніжніка лічылі самым даўнім узорам пісьменства ўсходніх славянаў.

Да нашых дзён дайшла і знойдзеная на Рурыкавым гарадзішчы ў Ноўгарадзе пячатка самой Еўфрасінні, што захоўваецца цяпер у фондах Наўгародскага гістарычна-археалагічнага запаведніка.

У Полацку вялі летапіс, урыўкі з яго захаваліся да ХУІІІ стагоддзя і трапілі ў так званы Яропкінскі спіс, якім карыстаўся расейскі гісторык В.Тацішчаў. Пра высокі на той час узровень пісьмѐннасці кажуць таксама графіці* полацкіх храмаў, каштоўныя помнікі эпіграфікі «Барысавы камяні». Нядаўна надпіс сярэдзіны XI стагоддзя выяўлены на вялікім камені з падмурка Сафійскага сабора. Магчыма, знойдзены «аўтограф» старажытных дойлідаў. У помніках пісьменства Полацкай зямлі часта сустракаецца дзесяцярычнае «і» — палачане ведалі лацінскі алфавіт.

На працягу большай часткі сваёй гісторыі княства захоўвала незалежнасць ад Кіева. Вядома, гэта не азначала адарванасці Полацка ад суседніх земляў, з якімі ён заўсёды меў цесныя дзяржаўныя, гандлёвыя і культурныя сувязі. Разам з тым самастойнасць, апрача палітычных і эканамічных выгадаў, давала вялікую творчую свабоду мясцовым дойлідам, жывапісцам, іншым талентам, якім не трэба было абавязкова арыентавацца на кіеўскія ўзоры. Такія ўмовы спрыялі развіццю цэлага шэрагу культурных асаблівасцяў, што дае падставы называць Полацкую зямлю не толькі прарадзімаю беларусаў, але і калыскаю беларускай культуры.

Тут, на берагах Дзвіны і Палаты, у Полацку або ў адной з блізкіх княжых вотчын і прыйшла на свет дзяўчынка, якой наканавана было далучыць да свайго імя назву роднага горада і назаўсёды застацца ў гісторыі і ў памяці беларускага народа.

---

* Старажытныя надпісы, зробленыя вострымі рэчамі на сценах будынкаў.

## Унучка Чарадзея



Будучая святая нарадзілася ў сям'і князя Святаслава-Георгія, малодшага сына Усяслава Чарадзея. Здарылася гэта праз колькі гадоў пасля смерці знакамітага полацкага валадара.

Дзяўчынку назвалі старажытным крывіцкім імем Прадслава. Паводле тагачаснага звычаю, атрыманае адразу па нараджэнні імя пасля хрышчэння магло змяніцца, але маленькая князёўна засталася Прадславаю.

З маленства яна чула ад бацькоў паданні пра знакамітых продкаў. У яе свядомасць рана ўвайшло імя непакорлівай Рагнеды, якую муж — Уладзімір Краснае Сонейка мусіў адправіць з малым сынам Ізяславам назад на радзіму. Прадславу вабіла і легендарная асоба дзеда Усяслава. Ягоная бітва [redacted] войскам князёў Яраславічаў на Нямізе, падступнае паланенне і кіеўская вязніца, паўстанне 1068 года, калі кіяне «пракрычалі» Усяслава вялікім князем, вяртанне ў Полацк і працяг барацьбы з Кіевам — згадкі пра гэтыя падзеі давалі князёўне яскравыя прыклады адданасці роднай зямлі.

Вучылася Прадслава ў школе пры Сафійскім саборы або дома, пры княжым двары (гэта больш верагодна). Настаўнікамі былі духоўныя асобы, найперш манахі, падручнікамі — Святое Пісанне, жыційная літаратура...

Ад настаўнікаў, з жыццяпісаў святых дзяўчынка атрымлівала і звесткі пра манастырскія статуты і звычаі. Кніжная навука давалася ёй значна лягчэй, чым аднагодкам. «Жыціе» адзначае яе любасць да вучэння і вялікія здольнасці.

Княская дачка мела доступ да самых розных кніг. Ужо ў бацькоўскім доме, апрача набажэнскай і іншай рэлігійнай літаратуры, Прадслава магла чытаць «Ізборнікі» з афарызмамі і выслоўямі, перакладзены з грэцкае мовы раман аб

подзвігах Аляксандра Македонскага — «Александрыю», вострасюжэтную «Аповесць пра Акіра Прамудрага»... Пазней іх замянілі творы з багаслоўскімі тлумачэннямі сутнасці прыроды, кнігі па антычнай гісторыі.

Дзяцінства князёўны праходзіла, вядома, не толькі ў бацькавым хораме. Яе прыцягвала шматгалосае і шматмоўнае торжышча, дзе можна было пачуць гусляра, пабачыць выступленні «вясёлых людзей» — скамарохаў. Прадслава заходзіла да гандляроў і рамеснікаў, што жылі на пасадзе. Пасля цесных курных хацін простага люду асабліва ўражвалі дзяўчынку полацкія храмы і найперш велічны Сафійскі сабор з яго багатымі фрэскавымі размалёўкамі.

Ад карміліцы, нянек, ад маці — княгіні Сафіі яна чула казкі, абрадавыя песні, замовы і заклёны. Своеасаблівае дваяверства існавала на Полаччыне нават у княжацка-дружынным асяроддзі, а значыць, Прадслава добра ведала паганскі пантэон*. У юныя гады яна была глядачкай, а магчыма, і ўдзельніцай гуканняў вясны, русалляў, купалляў, калядаў і іншых дахрысціянскіх святаў.

Слава аб прыгажосці і адукаванасці Прадславы разнеслася «по всем градам», і ў Полацк да князя Святаслава-Георгія зачасцілі сваты. «Жыціе» апавядае, што, калі князёўне споўнілася дванаццаць гадоў (з такога ўзросту дзяўчынку ў той час лічылі нявестаю), бацькі вырашылі аддаць яе замуж за сына нейкага слаўнага багаццем і княжэннем валадара. Наперадзе ў Прадславы быў звычайны для жанчын з яе кола лёс: нараджэнне і выхаванне дзяцей, хатнія клопаты, чаканне свайго гаспадара-князя з паходу або з ловаў...

І тут нечакана для блізкіх яна выбірае іншую пуцявіну.

---

* Усе багі якога-небудзь культу.

## Хрыстова нявеста



«Наполнишись мысли ея,— гаворыцца ў «Жыціі»,— и рече въ себе: «Но что успеша при нас бывшии родове наши? И женишася, и посягоша <выходзілі замуж>, но не вечноваша. И житие их мимо тече. Слава их погыбе, яко прах, и хужьши паучины... А другыя паче железу выя <шыя> своя не преклониша, но духовным мечем отсекоша от себе плотские сласти... то ти суть памятни на земли».

Прадслава прыходзіць у манастыр. Яе цётка, удава князя Рамана Усяславіча, якая была ігуменняй, «не хотящи острищи ея... и воздохнувши, и прослезившися, глагола къ ней: «Чадо мое! Како могу се сотворити? Отец твой, уведав, со всяцем гневом возложить вред на голову мою. А еще юна еси возрастом. Не можеши понести тяготы мнишеского житиа. И како можеши оставити княжение и славу мира сего?» Але Прадслава дабіваецца свайго і пад імем Еўфрасінні таемна ад бацькоў прымае пострыг, ахвяруючы сябе Хрысту. Беларускі даследчык «Жыція» Аляксей Мельнікаў лічыць, што здарылася гэта найверагодней 25 верасня — у дзень святой Еўфрасінні Александрыйскай.

Даведаўшыся пра доччын учынак, князь Святаслаў-Георгій, як апавядае «Жыціе», ад гора рваў на галаве валасы, а княгіня Сафія галасіла па Прадславе, як па нябожчыцы. Гэта было першае і вельмі цяжкае выпрабаванне юнай Хрыстовай нявесты, але яна здолела пераканаць бацькоў у слушнасці свайго выбару, у тым, што яны мусяць не смуткаваць, а цешыцца: іхняя дачка аддала ўсю сябе Госпаду.

Прыход Прадславы ў манастыр і звязаныя з гэтым акалічнасці даюць магчымасць з большай ці меншай дакладнасцю ўстанавіць дату яе нараджэння. З «Жыція» вынікае, што пострыг адбыўся, калі будучая падзвіжніца мела дванаццаць гадоў. Князь Раман Усяславіч, удава якога

стаяла на чале манастыра, памёр каля 1116 года (па іншых звестках — у 1113). Толькі пасля гэтага цётка Прадславы магла зрабіцца ігуменняю. Значыцца, святая Еўфрасіння нарадзілася не раней 1104 або 1101 года.

Што да пострыгу князёўны, то існуе цікавая версія, да якой схіляецца, напрыклад, гісторык Мікола Ермаловіч. Згодна яму, да гэтага кроку Прадславу маглі падштурхнуць і знешнія прычыны — суровая неабходнасць пазбегнуць высылкі на чужыну. У 1129 годзе (паводле некаторых летапісаў — у 1128) за адмову ісці ў паход на полаўцаў кіеўскі князь Мсціслаў выслаў полацкіх князёў у Візантыю. Паміж выгнанцаў летапіс называе і бацьку Еўфрасінні, разам з якім пакінуць Радзіму мусілі таксама яе маці і малодшая сястра Гардзіслава. Як мы ведаем, дынастыя Рагвалодавічаў была ў блізкім сваяцтве з візантыйскімі імператарамі Комнінамі. Такім чынам, высылка мела ў значнай ступені ганаровы характар (полацкія князі атрымалі пасады ў візантыйскім войску і ўдзельнічалі ў войнах з арабамі), і ўсё ж гэта было выгнанне. Можна толькі здагадвацца, ці дачакалася Еўфрасіння ўсіх сваіх родных назад: пэўнага адказу летапіс не дае.

## Полацкая кніжніца



фармаванні поглядаў Еўфрасінні Полацкай, якая стала адной з самых асвечаных жанчын сваёй эпохі, выключную ролю адыграла тагачасная літаратура.

Прыняцце хрысціянства вымагала перабудовы ранейшага, паганскага светапогляду: уяўленняў пра Сусвет, прыроду, пра гісторыю чалавечага роду... Сярод кніг, якія перакладалі і перапісвалі, прыехаўшы на ўсходнеславянскія землі, візантыйскія і балгарскія святары, а таксама іх мясцовыя паслядоўнікі, большасць складалі, вядома, набажэнскія тэксты і кнігі, дзе выкладаліся асновы

хрысціянскіх поглядаў на свет і хрысціянскай маралі. Але ў манастыры і ў княжыя хорамы трапляла і нямала твораў іншых жанраў: хронік, гістарычных і гістарычна-побытавых аповесцяў, прыродазнаўчых трактатаў. Наогул жа, літаратура таго перыяду адлюстроўвала светапогляд, тыповы для шмат якіх хрысціянскіх краін ранняга сярэднявечча. «Старажытнарускую літаратуру*,— лічыць акадэмік Д.Ліхачоў,— можна разглядаць як літаратуру адной тэмы і аднаго сюжэта. Гэты сюжэт — сусветная гісторыя, і гэтая тэма — сэнс чалавечага жыцця».

Апрача біблейных кніг, Еўфрасіння яшчэ ў юнацтве не магла не чытаць творы патрыстыкі — рымскіх і візантыйскіх багасловаў, што шануюцца як айцы царквы. Полацкія кнігазборы XII стагоддзя несумненна мелі творы выдатнага візантыйскага прапаведніка Іаана Залатавуснага (344—407), што навучаў вернікаў хрысціянскім цнотам, вобразна выкрываў чалавечыя заганы. Пашыраныя ў княстве былі таксама творы Грыгорыя Назіянзіна, Васілія Кесарыйскага, Яфрэма Сірына, Іаана Сінайскага. Патрыстычная літаратура ўмацоўвала асновы хрысціянскай дагматыкі, мела вялікае значэнне ў станаўленні этычных ідэалаў. Тым самым мэтам служылі жыціі святых і патэрыкі — зборнікі кароткіх апавяданняў пра людзей, якія выславіліся сваёй пабожнасцю. Са старонак гэтых кніг паўставаў фантастычны, поўны дзівосаў свет, дзе за душы людзей зацята змагаліся сілы дабра і зла. Хвалюючыя праблемы будучыні свету, чалавечага лёсу пасля смерці закраналіся ў апокрыфах**, напрыклад, у такім папулярным, як «Блуканне Багародзіцы па пакутах».

У часы Еўфрасінні, а можа, і раней у Полацк маглі трапіць кнігі святых Кірылы і Мяфодзія, вядомыя з апісання

---

* Пад гэтым тэрмінам мы разумеем літаратуру, створаную на ўсім усходнеславянскім абшары.

** Апокрыфы — апавяданні аб персанажах біблейнае гісторыі, якія сюжэтна адрозніваюцца ад тых, што змешчаны ў кананічных кнігах Бібліі.

бібліятэкі Сафійскага сабора, зробленага ў канцы ХУІ ст.

Кожны адукаваны чалавек павінен быў ведаць гісторыю свайго народа і суседзяў. Значыцца, полацкая ігуменння вывучала Нестараву «Аповесць мінулых часоў», якая ўводзіла ўсходняе славянства ў рэчышча сусветнай гісторыі. Цалкам верагодна, што разам з айчыннымі летапісамі асветніца чытала і папулярныя тады візантыйскія хронікі, што праз дынастычныя сувязі маглі трапляць у Полацк непасрэдна з Візантыі. Адна з такіх кніг, «Хроніка Георгія Амартола», пачыналася ад стварэння свету, затым падавала біблейную гісторыю, гісторыю вавілонскіх і персідскіх цароў, апавядала пра рымскіх і канстанцінопальскіх імператараў. Гэты твор дапаўняла «Хроніка Іаана Малалы». Яе аўтар прызначаў сваю працу шырокім колам пісьменных людзей, а таму пісаў немудрагеліста і цікава. Чытаючы 18 кніг названай хронікі, можна было, у прыватнасці, пазнаёміцца з антычнымі міфамі і з падзеямі Траянскай вайны, з жыццяпісамі персідскіх цароў, Ромула і Рэма, першых рымскіх валадароў. Не пазней пачатку XII стагоддзя на землях усходніх славян з'явіўся пераклад «Гісторыі Іудзейскай вайны» Іосіфа Флавія, у цэнтры якой адна з адметных падзеяў сусветнай гісторыі — паўстанне насельніцтва Іудзеі супраць рымскага ўладарання, захоп і разбурэнне Ерусаліма. Гістарычныя хронікі мелі шматлікія мініяцюры, якія часта адлюстроўвалі рэальных асоб і рэальныя падзеі. У адным з перакладаў кнігі Георгія Амартола быў, напрыклад, малюнак «Вывяржэнне Везувія».

Гістарычныя веды, усведамленне ўключанасці сваёй зямлі ў агульначалавечы гістарычны працэс умацоўвалі ў Еўфрасінні і ў яе сучасніках ідэі патрыятызму, служэння Бацькаўшчыне.

Уяўленне пра светабудову адукаваным людзям давалі творы візантыйскай навуковай думкі. Візантыйскія вучоныя лічылі свет наглядным сведчаннем мудрасці яго Творцы. Паводле іх, прыродныя з'явы, звычкі звяроў і птушак, нават адметнасці мінералаў — усё гэта ўвасобленыя ў жывых

істотах і матэрыяльных вобразах нейкія вечныя ісціны або паняцці.

Еўфрасіння чытала так званыя «Шасцідзёны». Гэтыя кнігі дапаўнялі і тлумачылі біблейны аповяд пра тое, як за шэсць дзён (адсюль і назва) Бог стварыў неба, зямлю, свяцілы, расліны, жывых істот і чалавека. «Шасцідзёны» — зводы ўсіх вядомых на той час візантыйскай навуцы звестак пра жывую і нежывую прыроду. Найбольш пашыраны быў «Шасцідзён» балгарскага экзарха (намесніка канстанцінопальскага патрыярха) Іаана. У ім гучала натуральнае захапленне ўсемагутнасцю Бога, які стварыў такі шматстайны, цудоўны і разумна ўладкаваны свет.

Прыродазнаўчы характар меў і такі помнік эпохі Еўфрасінні, як «Фізіялог». У адрозненне ад «Шасцідзёнаў», што апавядалі аб прыродзе ў цэлым, тут гаворка ішла пераважна пра жывыя стварэнні, у ліку якіх побач з рэальнымі сустракаліся міфічныя: кентаўры, сірэны, неўміручая птушка Фенікс. «Фізіялог» паведамляў пра ўласцівасці нейкай істоты і даваў іх сімвалічнае тлумачэнне, што павінна было знайсці аналогію паміж гэтымі ўласцівасцямі і адным з багаслоўскіх паняццяў. Як прыклад можна прывесці аповяд пра льва. Калі верыць «Фізіялогу», ільвіца нараджае нежывое дзіцянё, а потым, праз тры дні, леў-бацька, дыхнуўшы на ільвяня, ажыўляе яго — пэўная аналогія з увасабленнем, смерцю і ўваскрэсеннем Хрыста.

З разважаннямі пра будову Сусвету можна было пазнаёміцца, чытаючы «Хрысціянскую тапаграфію» Касмы Індыкаплова, купца, які каля 530 года зрабіў падарожжа па краінах Блізкага Усходу і Паўночнай Афрыкі. Індыкаплоў сцвярджае, што Зямля — плоская; яе і неба ён параўноўвае з залаю, якая мае скляпеністую столь. Неба, што бачаць людзі, складаецца з вады, але над ім ёсць яшчэ адно — невідочнае. Атмасфернымі з'явамі і рухам свяцілаў кіруюць адмысловыя анёлы.

«Жыціе» і іншыя нешматлікія крыніцы не даюць нам дастатковых звестак, каб з усёй пэўнасцю ахарактарызаваць

погляды святой Еўфрасінні на ўзаемадачыненні чалавека і навакольнага свету, але адну выснову мы можам зрабіць. Грунтуючыся на біблейным вучэнні, патрыстычная літаратура называла чалавека «мікракосмам» (малым сусветам), а прыроду — «макракосмам». Гэтым падкрэслівалася арганічнае адзінства, у якім павінны існаваць названыя сусветы. Ужо ў раннім сярэднявеччы на ўсходнеславянскіх землях была выказана думка, што прырода — храм, дзе чалавек здзяйсняе сваё творчае служэнне. Так, відавочна, лічыла і Еўфрасіння Полацкая.

Да рук асветніцы, відаць, траплялі і творы, што ўступалі ў пэўную супярэчнасць з тагачаснымі багаслоўскімі поглядамі на чалавека і прыроду. Візантыйскі філосаф, пісьменнік і дзяржаўны дзеяч Міхаіл Псёл (1018—90-я гады XI стагоддзя) у сваіх трактатах, напрыклад, высмейваў веру ў цуды, даводзіў, што кожная з'ява прыроды мае натуральную прычыну. Прырода ў Псёла — гэта рассеяны паўсюль, нябачны, але спасцігальны розумам пачатак. Этычныя погляды вучонага вылучаліся памяркоўнасцю і былі накіраваныя супраць празмернага манаскага аскетызму. Сучаснікі абвінавачвалі Псёла ў прыхільнасці да паганскае філасофіі, асабліва да Платона.

Вучэнне Міхаіла Псёла развіваў ягоны паслядоўнік Іаан Італ. Ён лічыў матэрыю вечнай, адмаўляў пасмяротнае існаванне душы і схіляўся да таго, каб прызнаць або магчымасць яе перасялення, або поўнае знікненне пасля смерці. Італ дайшоў да адкрытага канфлікту з хрысціянствам. Па загаду імператара Аляксея І Комніна (жанатага з цёткаю Еўфрасінні) вучэнне філосафа разгледзеў і аддаў анафеме царкоўны сабор 1082 года.

Ці чытала святая Еўфрасіння працы Арыстоцеля, Платона і іншых антычных аўтараў? Пытанне застаецца адкрытым, але на яго можна даць і станоўчы адказ, бо сучаснік асветніцы Клімент Смаляціч у сваім «Пасланні Фаме прэсвітэру» зарэкамендаваў сябе знаўцам антычных філосафаў.

Гаворачы пра грамадскія погляды полацкай ігуменні, найперш трэба спаслацца на ленінградскага вучонага Наталлю Сярогіну. Тэкст спеўнага цыкла XII стагоддзя пра Еўфрасінню прывёў яго даследчыцу да думкі: там сцвярджаюцца тыя самыя ідэі, што і ў «Слове пра паход Ігаравы» — палымяны пратэст супраць братазабойчых усобіц, неабходнасць яднання ўсходнеславянскіх княстваў перад знешняю пагрозаю. У прысвечаным Еўфрасінні Полацкай каноне* гаворыцца: «Князем сродником друг на друга дерзающе подъяти мечь возбранила еси, яко оружие обоюдоостро словесем божим устрашающем». Н.Сярогіна мяркуе, што невядомы аўтар «Слова» і знакамітая палачанка (яна, несумненна, бывала ў Кіеве) — людзі аднаго кола, якія мелі блізкія перакананні і светапогляд, а магчыма, і былі знаёмыя. Гэтая выснова добра стасуецца з версіяй, паводле якой аўтар «Слова пра паход Ігаравы» быў ураджэнцам або жыхаром беларускіх земляў.

Мы не маем прамых звестак, як ігуменя Еўфрасіння ставілася да сялян і іншага залежнага люду, але, думаецца, яна не магла не падзяляць поглядаў Кірылы Тураўскага, які ў адным са «Словаў» абураўся тым, што валадары «неміласэрныя да рабоў сваіх і да рабынь, не даюць ім досыць ежы і адзення, і работаю надсіляюць і іншымі злыбедамі, і б'юць ні за што». На Еўфрасінню мог уплываць і згаданы вышэй Міхаіл Псёл, што ў сваёй «Хранаграфіі» асуджаў паўстанні народных нізоў, але выступаў супраць дэспатызму імператара і вялікіх выдаткаў двара.

Як ставілася асветніца да паганства? Ужо адзначалася, што яго пазіцыі ў Полацкім княстве і пасля прыняцця хрысціянства заставаліся даволі моцнымі не толькі сярод простага народу. Паганскія вешчуны («волхвы») мелі доступ да княжага двара. Гэта пацвярджаецца летапісным паведамленнем, што князь Усяслаў Брачыславіч Чарадзей нарадзіўся ад «волхвования». Думаецца, невыпадкова гіста-

* Канон — царкоўны спеў у гонар святога або свята.

рычныя крыніцы не падаюць звестак пра якія-небудзь жорсткія ганенні на паганцаў і іхніх ідэолагаў-вешчуноў у Полацкай зямлі. Святая Еўфрасіння, вядомая як міратворыца, наўрад ці магла быць прыхільніцай бязлітаснага праследу суайчыннікаў-іншаверцаў.

Аднак вернемся да юнай Хрыстовай нявесты і паспрабуем прайсці побач з ёю па прыступках яе духоўнага ўзыходжання.

## Схіліўшыся над пергаменам



Праўжыўшы нейкі час у посце і малітвах за манастырскімі сценамі ці ў манастырскай слабодцы пры адным з полацкіх храмаў, Еўфрасіння вырашыла, што яна ўжо падрыхтавалася да самастойнага падзвіжніцтва. Князёўна-чарніца звярнулася да полацкага епіскапа Іллі з просьбаю пасяліцца ў Сафійскім саборы. Магчыма, яна наследавала сваёй нябеснай апякунцы Еўфрасінні Александрыйскай або самой Багародзіцы, якая некалі жыла пры храме ў Ерусаліме. Але найпершаю прычынаю звароту да ўладыкі ўяўляецца імкненне быць бліжэй да кніг, да саборнае бібліятэкі, пра якую асветніца потым усё жыццё клапацілася.

Атрымаўшы ад Іллі дазвол, Еўфрасіння памяняла сваё ранейшае жытло на келлю-галубніцу ў Сафіі і «нача книгы писати своими руками».

Працэс пісьма ў тыя часы быў вельмі складаны і марудны. Кнігі пісалі на пергамене ўставам — буйным і прамым, без нахілу, почыркам, у якім кожная літара аддзялялася ад суседняй і, можна лічыць, не пісалася, а малявалася (злітнае пісьмо з'явілася толькі ў ХУ стагоддзі). Каб тэкст хутчэй высыхаў, яго прысыпалі пяском. Атрамант рабілі з адмысловых арэхаў, з адвару дубовай ці альховай кары, з жалезнай іржы, вішнёвага клею. Перапісчыку мала добра

ведаць грамату — неабходна мець і мастацкія здольнасці, бо пачатковыя літары і загалоўкі раздзелаў трэба аздабляць жывёльным ці раслінным арнаментам.

Апрача ўсяго іншага, перапісванне кніг было нялёгкаю фізічнаю працай. Тагачасны перапісчык часта пісаў не на стале, а на далоні левай рукі, якую падпіраў локцем аб калена. Гэтай працаю займаліся амаль выключна мужчыны. Ужо адно тое, што за такую цяжкую справу ўзялася маладая жанчына, было подзвігам.

Частка перапісаных Еўфрасінняю кніг ішла на продаж, [illegible] атрыманыя грошы па яе просьбе раздавалі бедным.

Якія ж кнігі доўгімі гадзінамі дзень пры дні перапісвала князёўна ў сафійскай галубніцы? «Жыціе» не дае адказу, але можна з упэўненасцю сцвярджаць, што гэта было Святое Пісанне і творы айцоў царквы, патэрыкі і жыціі. Апрача іх пяро асветніцы магло выводзіць радкі візантыйскіх гістарычных хронік і Полацкага летапісу, папулярных тады зборнікаў афарызмаў. Яна пісала і ўласныя творы — малітвы, казані, а таксама перакладала з грэцкае і з лацінскае моваў. Такім чынам, некаторыя кнігі візантыйскіх аўтараў маглі пашырацца на ўсходнеславянскіх землях у перакладах палачанкі.

З «Жыція» вядома, што асветніца мела перапіску з Візантыяй. Не будзе пярэчыць гістарычнай верагоднасці думка, што Еўфрасіння ліставалася з суайчыннікамі і братамі па духу Кірылам Тураўскім, Кліментам Смаляцічам, з аўтарам «Слова пра паход Ігаравы».

Вядома, пры ўсёй ахвярнасці маладой манашкі плён яе самотніцкай працы ў келлі быў невялікі. Еўфрасіння марыла пра тое, каб перапісваннем кніг у Полацку займаліся не адзінкі, а дзесяткі пісьменных людзей.

Хутка гэта стала яваю.

## «Тут належыць быць табе!»



Калі падзвіжнікі дасягаюць маральнае дасканаласці, Госпад заклікае іх да стварэння сваіх духоўных цвярдыняў. Так было наканавана і Еўфрасінні.

«Жыціе» апавядае, што аднойчы ў сне анёл узяў яе за руку і адвёў за дзве вярсты ад Полацка ў Сяльцо, дзе была драўляная царква Спаса і муравaны храм-пахавальня полацкіх епіскапаў. На гэтым месцы анёл прамовіў да манашкі: «Тут належыць быць табе!»

Сон паўтарыўся тройчы.

У тую самую ноч падобны сон бачыў і полацкі епіскап. Нябесны пасланец загадаў яму ўвесці рабу Божую Еўфрасінню ў Спасаўскую цэркаўку, што ў Сяльцы на беразе Палаты. Епіскап пачуў таксама прароцтва пра богаабранасць князёўны, якую чакала святое жыццё і царства нябеснае.

Запрасіўшы дзядзьку Еўфрасінні полацкага князя Барыса, а таксама яе бацьку Святаслава-Георгія і знаных палачанаў, уладыка абвясціў князёўне-чарніцы, што аддае ёй Сяльцо. Атрымаўшы багаславенне, Еўфрасіння памалілася ў Сафійскім саборы і, узяўшы з сабою адну манашку, выправілася на паказанае анёлам месца.

Увайшоўшы ў царкву Спаса, падзвіжніца звярнулася да Усявышняга з такімі словамі: «Ты, Госпадзе, даючы святым сваім апосталам запавет, наказаў не насіць з сабою нічога, акрамя посаха. Я ж, слухаючыся слова Твайго, прыйшла на гэтае месца, нічога не ўзяўшы з сабою, маючы ў сабе толькі слова Твае: Госпадзе, памілуй! А з маёмасці ўсяе ёсць у мяне адно гэтыя кнігі, з якіх мае ўцеху душа і весяліцца сэрца...»

Так паблізу Полацка Еўфрасіння заснавала жаночы манастыр. Здарылася тое яшчэ пры жыцці Барыса Усяславіча, значыцца, не пазней 1128 года, калі князь памёр. Праз

нейкі час пры царкве Багародзіцы (новай) падзвіжніца стварае яшчэ адзін манастыр — мужчынскі. Гэта таксама быў подзвіг: тады, на пачатку XII стагоддзя, манастыроў у Полацкім княстве і ўвогуле на ўсходнеславянскіх землях існавала няшмат. (Ад мужчынскага манастыра Прасвятой Багародзіцы да нашых дзён не захавалася ніякіх слядоў. Месца, дзе ён стаяў, дакладна невядомае, але ў часы Еўфрасінні была завядзёнка будаваць загарадныя жаночыя і мужчынскія манастыры ў блізкім суседстве, каб у выпадку небяспекі манахі баранілі абедзве цвярдыні. Гісторык Аляксей Сапуноў выказваў здагадку, што царква Багародзіцы і створаны пры ёй манастыр былі на тым месцы, дзе пазней з'явіўся касцёл св.Ксавэрыя, пра які цяпер нагадвае толькі назва гарадскіх могілак — Ксавэрыя.)

У полацкіх манастырах, статуты якіх напісала сама Еўфрасіння, пад яе кіраўніцтвам дзейнічалі майстэрні па перапісванню кніг — скрыпторыі. Тут існавала спецыялізацыя: адзін майстар рабіў каляровыя ініцыялы, другі — мініяцюры, трэці — пераплёты. Калі была патрэба перапісаць кнігу хутчэй, яе дзялілі на некалькі частак. Падзел працы значна павялічваў не толькі колькасць кніг, але і іх мастацкі ўзровень. Са скрыпторыяў кнігі разыходзіліся па ўсёй Полацкай зямлі і за яе межы. Іх чыталі вучоныя манахі і іншыя пісьменныя людзі, па іх вучыліся грамаце дзеці.

Пры адным з манастыроў, каб аздобіць полацкія храмы абразамі, падзвіжніца адчыніла таксама іканапісную майстэрню.

Створаныя найпадобнейшаю Еўфрасінняй цвярдыні слова Божага былі асяродкамі дабрачыннасці. Там знаходзілі заступніцтва, суцяшэнне і дапамогу ўдовы і сіроты, нямоглыя і пакрыўджаныя.

## Аз, букі, ведзі...



Полацкае княства мела вялікую патрэбу ў адукаваных людзях. Школы існавалі тут і да Еўфрасінні, але заснаванне асветніцаю манастыроў, яе чынная педагагічная дзейнасць далі школьнай справе новы магутны штуршок.

Дзеці ў тагачасных школах вучыліся чытанню, пісьму, «цыфіры» і царкоўным спевам. У літаратурных помніках той эпохі часта можна сустрэць пахвалу кніжнаму вучэнню. Яны прыпадабняюць людзей без навукі да бяскрылых птушак: як такая птушка не можа падняцца ў неба, так і чалавек не дасягне без кніг «совершенна разума».

Грамаце вучылі па царкоўных кнігах — Псалтыру, Часаслову, Апосталу. Авалоданне чытаннем ускладнялася тым, што рукапісныя кнігі не мелі знакаў прыпынку, словы і сказы часта зліваліся. Спачатку трэба было завучыць на памяць азбуку з цяжкімі назвамі літар — «аз», «букі», «ведзі», «глаголь»... Адначасова дзеці вучыліся выводзіць літары пісалам на бяросце або на васкаваных дошчачках — васкоўках. Потым вучылі склады: «ведзі»-«аз» — «ва», «букі»-«он» — «бо»... Пасля вучань мусіў засвойваць цітлы — надрадковыя знакі ў выглядзе ламанай рыскі, якія ставіліся над скарочанымі словамі або над літарамі, што мелі лічбавае значэнне. Справіўшыся з гэтай прамудрасцю і навучыўшыся чытаць паасобныя фразы і малітвы, а таксама пісаць, дзеці заканчвалі першы цыкл сваёй навукі. На гэта ішло два-тры гады.

Прыкладна так пачынала спасцігаць грамату дзятва і ў школах, адчыненых рупнасцю Еўфрасінні. Аднак высокаадукаваная ігуменння імкнулася пашырыць межы звычайнай навучальнай праграмы. Апрача царкоўнаславянскае, юныя палачане вучылі грэцкую і лацінскую мовы, атрымлівалі звесткі па прыродазнаўству, рыторыцы, медыцыне. Вялікая ўвага надавалася гісторыі. Вучні павінны былі добра ведаць

радавод дынастыі Рагвалодавічаў, важныя падзеі з мінуўшчыны Полацкай зямлі і ўсяго ўсходняга славянства. Напэўна, школа давала пэўныя веды і па сусветнай гісторыі.

У сваёй педагагічнай дзейнасці Еўфрасіння абапіралася на мудрасць народнай дыдактыкі: «На всяк же день учаше сестры своа: старыя же учаше тръпению и воздръжанию, юныя же учаше чистоте душевной и бестрастию телесному, говению образному, ступанию кротку, гласу смирену, слову благочестну, ядению и питию безмолвну, при старейших молчати, мудрейших послушати, къ старейшим покорением, къ точным <роўным> и меншим любовь без лицемериа, мало вещати, и много разумети».

Аўтар «Жыція» быў малодшым сучаснікам асветніцы, магчыма, нават яе вучнем. Пададзеныя ім фрагменты павучальных «словаў» Еўфрасінні, мяркуючы па ўсім, маюць рэальную аснову. Вучні і насельнікі манастыроў атрымлівалі ад ігуменні выдатныя ўрокі красамоўства. «Се собрах вы, яко кокошь <квактуха> птенца, под крыле свои и в паствину свою, яко овца,— прамаўляе яна да сясцёр.— Да пасецеся въ заповедех божиих! Да и аз <я> веселым сердцем подвизаюся учити вас, видящи плоды ваша трудныя и толико дождь проливаю къ вам, а нивы ваша въ едину меру стоят нерастуще, ни поступающе горе. А год приспевает свершению, и лопата на гумне лежить. Но боюся, егда будеть плен <пустазелле> въ вас. Подщитеся, чада моя, убежати того всего! Но сотворите ся пшеница и осмелитесь въ жерновах смирением...» Уражваюць багатая вобразнасць гэтага ўрыўка і яе празрыстасць, цесная сувязь метафар і параўнанняў з жыццём простага чалавека. Тут, як і ў іншых фрагментах «Жыція», відаць несумненныя прамоўніцкія здольнасці асветніцы.

Кніжніца Еўфрасіння не магла не звярнуць увагі на змешчаны ў «Ізборніку» Святаслава 1073 года трактат пра паэтыку «Об образех», дзе на прыкладах (у тым ліку з «Іліяды» і «Адысеі») тлумачылася значэнне розных тро-

паў — алегорый, гіпербал, метафар. З вучнямі полацкіх школ, прынамсі, з найбольш здатнымі, праводзіліся заняткі і па паэтыцы.

Школы Еўфрасінні Полацкай былі перадавымі для свайго часу і праграмаю навучання, і складам вучняў, значная частка якіх набіралася з дзяцей простых гараджан.

## Сёстры-манашкі



Памочніцамі і апірышчам Еўфрасінні ў шматлікіх клопатах і пачынаннях сталі яе сёстры: родная Гардзіслава (у манастве Еўдакія) і стрыечная Звеніслава (Еўпраксія). Але трапілі яны ў манастырскія сцены па-рознаму.

Заснаваўшы Спасаўскі манастыр, маладая ігумення папрасіла бацьку прыслаць да яе сястру ў навучанне грамаце. Еўфрасіння «съ прилежанием учаше о спасении души, а она (Гардзіслава.— *У.А.*) съ прилежанием учашесь и приимаше, яко нива плодовита, умякчивши сердце свое». Затым «Жыціе» паведамляе, што ігумення таемна пастрыгла сястру ў манашкі, выклікаўшы гэтым у бацькі вялікі гнеў. «И узьярився на преподобную Ефросинию, сердцем горя. И приеха къ монастырю, глаголя: «Чадо мое милое, что се сотворила еси? Приложи сетование къ сетованию души моей, и печаль къ печали». Знайшоўшы шлях да сэрца сястры, асветніца здолела суцешыць Божым словам і бацькоў.

Са Звеніславаю было іначай. Яна прыйшла да сястры сама і «принесе всю свою утварь златую и порты <уборы> многоценныя» — ідаць, ахвяравала храму Спаса свой пасаг. Адносіны паміж Еўфрасінняю і Еўпраксіяй былі вельмі блізкія — «яко единa душа въ двою телесу».

Сёстры заставаліся разам усё далейшае жыццё. Звеніславу-Еўпраксію полацкая ігумення абрала спадарожніцаю, выпраўляючыся ў канцы зямнога шляху ў Ерусалім. Роднай

сястры Еўдакіі, пакідаючы Полацк, яна загадала «дръжати и урядити... оба монастыря».

Пасля смерці Еўфрасінні Еўдакія, мабыць, сама заняла месца ігуменні Спасаўскага манастыра і працягвала асветніцкую дзейнасць старэйшай сястры. Вярнуўшыся з паломніцтва ў Святыя Мясціны, Еўпраксія была побач з ёю.

Апавядаючы пра ад'езд найпадобнейшай у апошняе падарожжа, «Жыціе» падае таксама звесткі аб пастрыжэнні Еўфрасінняю ў манастыр яе пляменніц Вольгі і Кірыяны. Як і ў выпадку з Гардзіславай, гэта адбылося супроць волі бацькоў. Даведаўшыся пра намер ігуменні, бацька дзяўчат, яе ўлюбёны брат Вячаслаў спрабаваў заклікаць да міласэрнасці: «Госпоже моя! Что ми хощеши сотворити? Два плача прилагаеши души моей: плача ся отхода твоего и сетуя чаду деля своею», але ягоныя просьбы былі марныя.

Іншых звестак пра пляменніц асветніцы не захавалася, аднак яны, як прадстаўніцы княскай дынастыі Рагвалодавічаў, павінны былі іграць у манастырскім жыцці не апошнюю ролю.

Не трэба бачыць, як гэта робяць некаторыя, у апісаных вышэй паводзінах ігуменні жорсткасць. Такія (можа, і сапраўды не надта гуманныя з сучаснага пункту погляду) учынкі дыктаваў Еўфрасінні клопат пра душы блізкіх, пра будучыню сваёй справы.

Аўтар «Жыція» сцвярджае, што святая мела такі дар ад Бога: зірнуўшы на кагосьці, адразу магла ўбачыць, ці ёсць у ім дабрадзейны дух і ці можа гэты чалавек быць абраннікам Гасподнім.

## Ад заняпаду да адраджэння



Заснаваны найпадобнейшаю Еўфрасінняю Спасаўскі манастыр цягам стагоддзяў перажыў і часы ўзвышэння, і гады поўнага заняпаду. Трэба скептычна ставіцца да слоў асобных расейскіх аўтараў пра тое, што чарніцы пакінулі свой прыстанак у часе нашэсця Батыя. Дымна-крывавы след татарскіх ордаў застаўся толькі на самым поўдні беларускіх земляў. Наогул жа Беларусь, у адрозненне ад сваіх усходніх суседзяў, татара-мангольскага прыгнёту не зведала. Больш верагодна, што ў часе нашэсця ў полацкіх манастырах ратаваліся ўцекачы з іншых усходнеславянскіх княстваў.

Цяжкія выпрабаванні надышлі для Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра, калі Масковія распачала настойлівыя спробы захапіць беларускія землі, што на пачатку XIУ стагоддзя канчаткова ўвайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага. Гэта была магутная феадальная дзяржава, ядром якой з'яўлялася Беларусь, а пануючай культурай — беларуская, прычым беларуская мова без малога чатыры стагоддзі выконвала тут ролю дзяржаўнай.

Калі ў 1563 годзе войска Івана Грознага (Жахлівага) ішло на Полацк, начутыя аб звярынай жорсткасці маскоўскага цара чарніцы з плачам развіталіся са Спасаўскім манастыром. Яны ўжо не вярнуліся туды ні ў гады маскоўскае акупацыі, ні пасля ўзяцця Полацка ў 1579 годзе каралём Польшчы і вялікім князем Літоўскім Стэфанам Баторыем.

Амаль усе полацкія манастыры, у тым ліку і Спасаўскі, з іхнімі землямі і іншай маёмасцю кароль перадаў ордэну езуітаў.

У 1654 годзе Полацк зноў занялі расейскія войскі. Праз два гады туды прыехаў цар Аляксей Міхайлавіч, які «ходил... в Спасской монастырь, что бывал девичей монастырь

благоверной великой княжны Евфросинии Полоцкой... Того ж месяца июля в 9 день ... было священие церкви Преображение Спасово».

Паводле Андрусаўскага міру 1667 года, горад быў вернуты Рэчы Паспалітай. Вярнуліся ў манастыр і езуіты, якія заставаліся тут гаспадарамі і пасля захопу Беларусі Расеяй у канцы ХУІІІ стагоддзя, да самага іх выгнання з Расейскае імперыі ў 1820 годзе.

За іхнім часам на месцы даўнейшага манастырскага будынка быў змураваны двухпавярховы дом — летняя рэзідэнцыя езуіцкіх генералаў. Да 1832 года манастыр належаў каталіцкаму ордэну піяраў, потым спачатку манастырскі сабор, а ўслед за ім і іншыя збудаванні царская ўлада перадала праваслаўным.

Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр у 1840 годзе быў адноўлены і з прычыны сваёй старажытнасці і значнасці прылічаны да першакласных расейскіх манастыроў. Пры ім пачало дзейнічаць жаночае вучылішча, многія выпускніцы якога сталі народнымі настаўніцамі.

Зачынены бязбожнаю ўладаю ў 1928 годзе (тады ў ім было каля 250 манашак), Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр аднавіў сваё жыццё пад час нямецкае акупацыі.

У пасляваенны час размешчаная паблізу вайсковая частка пачала браць з насельніц манастыра ... кватэрную плату.

У 1954-м яго зноў зачынілі, і манашкі (у 1953 годзе іх было 54) мусілі выехаць у Жыровіцы, што пад Слонімам.

Праз трыццаць пяць гадоў пачалося новае адраджэнне старажытнай цвярдыні слова Божага.

## Узлёт полацкага дойлідства



Палітычная і эканамічная незалежнасць Полацкага княства спрыяла ўзнікненню адметнай школы дойлідства. Яна фармавалася на аснове візантыйскай архітэктурнай традыцыі, у адпаведнасці з якой быў узведзены Сафійскі сабор. Аднак тут эстэтычныя ідэалы візантыйцаў атрымалі своеасаблівае разуменне і развіццё, зазнаўшы заходнееўрапейскага ўплыву.

У Полацкім княстве пачынаюцца пошукі новых архітэктурных формаў. Сведчаннем гэтых пошукаў было будаўніцтва прыезджымі майстрамі ў Віцебску царквы Звеставання, у якой ідэі візантыйскага крыжова-купальнага храма спалучаюцца з некаторымі рысамі архітэктуры Заходняй Еўропы. Адыходам ад ранейшых канонаў вылучаліся царква-пахавальня полацкіх епіскапаў, храмы Бельчыцкага (Барысаглебаўскага) манастыра, заснаванага ў Полацку на мяжы XI — XII стагоддзяў.

У сярэдзіне XII стагоддзя канчаткова склалася полацкая школа дойлідства. Для яе характэрная муроўка з плінфы (тонкай, добра абпаленай цэглы) з так званым «схаваным радам», калі адны рады плінфы выступалі, другія былі як бы прыхаваныя ўглыб, а прамежак паміж імі запаўняўся цамянкай — вапнавай рошчынай, у якую дабаўлялі тоўчаную цэглу. Знадворку будынкі не атынкоўвалі, і такая тэхніка муроўкі ўтварала двухколерную «паласатую» гаму сцен. Полацкія майстры адыходзяць ад візантыйскіх крыжова-купальных храмаў з некалькімі апсідамі* і набліжаюцца да стварэння зусім новых формаў.

Найвышэйшы ўзлёт полацкай архітэктурнай школы, звязаны з творчасцю дойліда Іаана, прыпадае на гады ас-

---

* Апсіда — паўкруглая або шматвугольная частка храма, якая выступае за ягоныя агульныя контуры і ў якой месціцца алтар.

ветніцкай дзейнасці Еўфрасінні, што, вядома, зусім невыпадкова.

Іаан быў манахам аднаго з мясцовых манастыроў. Гэты надзелены самабытным талентам майстар пакінуў у Полацку не меней трох храмаў. Князёўна-ігуменння ўважліва сачыла за ягонай творчасцю. Тым часам Спасаўскі манастыр папаўняўся манашкамі. Чарніцы прыносілі дарункі, свецкія асобы таксама рабілі ахвяраванні. Цесная драўляная царква ўжо з цяжкасцю змяшчала ўсіх, хто прыходзіў на малітву. Задумаўшы будаваць для свайго манастыра сабор, Еўфрасіння, натуральна, звярнулася да Іаана, які да таго часу ўжо стварыў такія адметныя храмы, як цэрквы Параскевы-Пятніцы ды Барыса і Глеба ў Бельчыцах.

«Бе муж Иоан, приставник над делатели церковными <кіраўнік арцелі майстроў-муляраў>,— апавядае «Жыціе».— Къ нему же многажды прихожаше, глаголила: «Иоане, востани поиди на дело вседръжителю Спасу!» И въ един от дний востав, Иоан прииде къ блаженой Ефросинии и рече: «Ты ли, госпоже, присылаеши и понужаеши мя на дело?» Она же рече: «Ни». И пакы размысливши премудрая жена и рече ему: «Аще не аз тя возбуждаю, а кто тя взывает на таково дело, того послуша, и прилежно съ тщанием».

«И потом блаженая Ефросиниа заложи церковь камену святого Спаса. От начатка и устроена за 30 недель».

У канцы працы ў муляраў скончылася цэгла і не было чым «верха окончати», але назаўтра пасля малітваў ігуменні майстры знайшлі «плиты въ пещи».

Вядомы расейскі гісторык Леанід Аляксееў называе будаўніцтва Спасаўскага сабора «найбуйнейшаю падзеяй у полацкай і ва ўсёй старажытнарускай архітэктуры». Еўфрасіння была не толькі фундатаркаю храма, але і дарадчыцай, натхняльніцай Іаана на творчы подзвіг.

Змураваная за адзін будаўнічы сезон Спасаўская, або Спаса-Праабражэнская (цяпер яе часта і не зусім правільна называюць Спаса-Еўфрасіннеўскай), царква — вяршыня архітэктурнай думкі Полацка. Гэта трохнефавы шасці-

стаўповы крыжова-купальны храм манастырскага тыпу памерам 8 х 12 метраў. Цэнтральны шырокі неф* з усходу завяршае масіўная паўкруглая абсіда, а бакавыя нефы — схаваныя ў тоўшчы сцяны паўкруглыя нішы. Паўднёвы і паўночны фасады расчляняюцца пілястрамі з паўкалонамі. Яны рытмічна дзеляць паверхню на два вузкія і два шырокія прасценкі з паўцыркульнымі вокнамі (ніжнія ў 1,5 раза большыя за верхнія).

Храм меў пазакамарнае** пакрыццё асноўнага аб'ёму і больш нізкага бабінца. Цяпер старажытным закамарам адпавядаюць толькі тры ўсходнія паўкружжы паўночнай і паўднёвай сцен. Барабан купала ўзвышаўся над скляпеннямі і абапіраўся на кубічны пастамент. Важнаю рысаю Спасаўскага сабора было тое, што тут упершыню на тэрыторыі Беларусі з'явіліся какошнікі (несапраўдныя закамары, што маюць дэкаратыўнае значэнне). Закамары і какошнікі былі кілепадобныя, што яшчэ больш падкрэслівала стройнасць храма. Царкву завяршаў барабан з выцягнутымі вокнамі і шаломападобным купалам. У сярэдзіне храма асаблівасці кампазіцыі нараджалі ілюзію ягонай велізарнай вышыні. У заходняй сцяне, што ў два разы таўсцейшая за паўночную і паўднёвую, ідзе ход на хоры, паабапал якіх — келлі Еўфрасінні (з паўднёвага боку) і Еўдакіі (з паўночнага). Тут прайшла значная частка жыцця асветніцы і яе сястры.

Іаан паставіў перад сабой задачу стварыць кампазіцыю, якая імкнецца ў неба, і бліскуча справіўся з ёю. Размешчаная на беразе Палаты і цудоўна ўштукаваная ў ландшафт, Спасаўская царква і цяпер, пасля праведзенай у XIX стагоддзі частковай перабудовы, пакідае надзвычай моцнае ўражанне завершанасці і суладнасці.

---

* Падоўжаная частка храма, абмежаваная з абодвух ці з аднаго боку шэрагам калонаў або слупоў.

** Закамара — паўкруглае ці кілепадобнае завяршэнне часткі сцяны будынка, якое адпавядае форме ўнутранага скляпення.

Для Еўфрасінні і яе сучаснікаў кожны храм быў вобразам і мадэллю Сусвету. У храмах увасабляліся ідэалы прыгажосці і гармоніі. Думаецца, што пачуцці асветніцы, калі яна ўпершыню ўбачыла новы сабор без рыштаванняў, былі сугучныя пачуццям Міхаіла Псёла, які ў сваёй «Хранаграфіі» пісаў пра храмы: «Вока нельга адвесці не толькі ад невыказнай прыгажосці цэлага, з цудоўных частак сплеценага, але і ад кожнай часткі паасобку, і хоць ад іх можна атрымліваць асалоду бясконца, ніводнаю не ўдаецца налюбавацца дасхочу, бо позірк да сябе прыцягвае кожная...»

Беларускі гісторык Георгій Штыхаў і шэраг іншых даследчыкаў лічаць, што Спасаўскі сабор збудаваны паміж 1152 і 1159 гадамі.

Заканчэнне будаўніцтва і асвячэнне храма полацкім епіскапам колькі дзён святкаваў увесь горад. Аўтар «Жыція» паведамляе: «Преподобная же Еуфросиния, видевши церковь совръшенную, возрадавася душею. И бысть священие и велиа радость всем крестьяном. И собрашась князи и силнии мужи, черноризици и черноризци, и простие людие. И бысть радость велиа. И празноваша дни мнози».

Падтрыманыя асветніцай наватарскія ідэі Іаана пачалі хутка пашырацца не толькі на радзіме, але і ў суседніх княствах. Гэтаму спрыяла праца полацкіх майстроў у іншых усходнеславянскіх землях. У канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў XII стагоддзя хтосьці з полацкіх дойлідаў узвёў у Смаленску княскі палацавы сабор архангела Міхаіла і гэтым заклаў асновы смаленскай архітэктурнай школы. Прыкладна ў той самы час палачане пабудавалі на Сінічай гары ў Ноўгарадзе царкву Пятра і Паўла. У Наваградку полацкія дойліды ў другой палове XII стагоддзя збудавалі з плінфы галерэю трохапсіднага храма, які знаходзіўся на месцы сучаснай Барысаглебаўскай царквы.

Спасаўскі сабор захаваўся да нашых дзён, але яму быў наканаваны нялёгкі лёс. З 1581 года (з невялікім перапынкам у 1654—1667 гадах, калі горад быў захоплены расейскім войскам) храм належаў ордэну езуітаў, якія перат-

варылі яго ў касцёл. Пасля выгнання езуітаў з Полацка царква разам з манастыром, як ужо адзначалася, перайшла да ордэна піяраў, а ў 1832 годзе яе перадалі праваслаўным. Са жніўня наступнага года там аднавілася набажэнства. У часе пачатага тады рамонту царкву часткова перабудавалі (архітэктар А.Порта). У выніку геніяльны твор дойліда Іаана істотна змяніў сваё аблічча: на месцы пазакамарнага пакрыцця з'явіўся трохсхільны дах, шаломападобны купал ператварыўся ў «цыбуліну»... Цяпер спецыялісты «Белрэстаўрацыі» распрацавалі праект аднаўлення першапачатковага выгляду храма.

## Старажытныя вобразы



фондах Рускага музея ў Пецярбурзе захоўваецца старажытны абраз Божае Маці, вядомы пад назваю Адзігітрыя Полацкая. Гэты жывапісны твор XII стагоддзя мае вельмі цікавую гісторыю. Яна пачынаецца з рашэння Еўфрасінні аздобіць багасабор, пабудаваны для заснаванага ёю Багародзіцкага мужчынскага манастыра. З «Жыція» мы даведваемся, што знакамітая палачанка паслала слугу Міхаіла ў Царгорад (Канстанцінопаль) да візантыйскага імператара Мануіла Комніна і патрыярха Лукі Хрысаверга. Пасланец вёз багатыя дарункі і просьбу Еўфрасінні прыслаць ёй абраз Багародзіцы Эфескай, адзін з трох, што, паводле візантыйскае традыцыі, яшчэ пры жыцці Дзевы Марыі намаляваў з яе першы іканапісец апостал Лука, які з гэтае прычыны ў сярэднявеччы лічыўся апекуном мастакоў.

Імператар паставіўся да просьбы полацкай сваячкі з разуменнем. Адпраўленыя ім у Эфес сто воінаў прынеслі абраз у Канстанцінопаль, адкуль пасля багаславення патрыярхам у храме святой Сафіі рэліквію паслалі Еўфрасінні. «Она же,— чытаем у «Жыціі»,— внесше въ церковь святей Бого-

родици и постави ю <яе> ... и украси ю златом и камением многоценным».

Трэба сказаць, што нямала даследчыкаў, у тым ліку і царкоўныя гісторыкі, выказваюць слушныя сумненні, што ў Полацк трапіў арыгінал старажытнага твора. Сапраўды, навошта было патрыярху багаслаўляць абраз, намаляваны апосталам і ўслаўлены шматлікімі дзівосамі? Калі ж гэта была копія, патрыярхавы дзеянні выглядаюць цалкам лагічна. Прычым гаворку больш слушна будзе весці пра копію не з Эфескага, а з Царгародскага абраза.

Адны рэдакцыі «Жыція» кажуць, што прысланая Еўфрасінні рэліквія захоўвалася ў храме Спаса, іншыя — што ў царкве Багародзіцы. Такая разбежнасць звестак, напэўна, тлумачыцца тагачасным звычаем насіць Адзігітрыю (у перакладзе з грэцкае — Пуцяводную) па ўсіх полацкіх бажніцах. Пры гэтым найдаўжэй яна магла заставацца якраз у манастырскіх саборах. Выносілі абраз па аўторках — як і Адзігітрыю Царгародскую ў Канстанцінопалі.

Ёсць сведчанні, што ў 1239 годзе абраз перанеслі з Полацка ў горад Тарапец і перадалі ў тамтэйшую Уваскрасенскую царкву. Прычынаю такога шчодрага ахвяравання было вянчанне ў гэтым храме дачкі полацкага князя Брачыслава князёўны Параскевы з роду Рагвалодавічаў і князя Аляксандра Яраславіча, пазней званага Неўскім. Адтуль ужо ў нашым стагоддзі рэліквія «пераехала» ў пецярбургскі музей.

Зрэшты, гэтая версія адказвае не на ўсе пытанні.

У 1663 годзе, у часе цяжкай вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай, яшчэ адзін выдатны палачанін — паэт, педагог, царкоўны дзеяч Сімяон Полацкі піша верш «Априль 27. Взенто образ насвентшэй Богородзицы з Полоцка до Москвы». Ён звяртаецца да святой Еўфрасінні з малітваю аб вяртанні ў Полацк забранага расейцамі цудатворнага абраза Багародзіцы:

Ты еси мати, о Еуфросиние,
Жытелям града всим удобрение.
Яже потщася икону святую

Внести здалеча в страну Полоцкую.
От Цариграда або из Иефесе
Цар благоверны всечестна прынесе,
Твоего ради зельна прошения,
Российских дело стран украшения.
Прыподи к ногам небесного цара,
Да не миныт нас толикаго дара.
Потшыся паки возврашченей быти,
Иконе святей Полоцк украсити.
Отчынный град твой, в нем же бы трудися,
Христу жениху си уневестися.
Ибо толико град нам украшает
Девыя образ ы всюду вславляет.
Якое ест слонцем небо украшенно,
Светлыми звезды дивно упестренно.
Полотски граду бе утвержение,
Столп, стена, помошч ы огражение.
Нине без него како нам пребыти? —
Аки без слонца не удобно жыти.
Убо, о Мати, прыпади за нами
Господу Богу твоими рабами,
Да возвратил бы нам икону святую
Просветил землю Белороссыйскую.

Пра які ж абраз кажа паэт?

Пра той, што трапіў у Полацк з Візантыі ў XII стагоддзі? (Звернем увагу на радок: «От Цариграда або из Иефесе», які можа быць ускосным сведчаннем, што візантыйскія майстры знялі копію з намаляванага апосталам Лукой Царгародскага абраза. Прынамсі, С.Полацкі дакладна не ведае, адкуль трапіла святыня ў яго родны горад.)

Пра копію, якую зрабілі полацкія мастакі перад тым, як абраз Адзігітрыі, якому малілася калісьці найпадобнейшая Еўфрасіння, быў адпраўлены ў Тарапец?

Адзігітрыя Полацкая — самы ранні ўзор гэтага іканаграфічнага тыпу на ўсходнеславянскіх землях. Такія помнікі маюць надзвычай вялікае значэнне, бо з іх пачына-

ецца мастацкая традыцыя. Мабыць, невыпадкова выявы Адзігітрыі — адзін з самых улюбёных сюжэтаў беларускіх іканапісцаў.

Абраз уражвае прамой ганарыстай паставай, бездакорнымі прапорцыямі. На плечы Багародзіцы ўрачыста падае мафорый (жаночы галаўны ўбор) з па-майстэрску намаляванымі складкамі.

Сапраўдная Полацкая Адзігітрыя сёння схаваная пад больш познімі фарбамі, аднак уяўленне пра першапачатковую выяву дае фотаздымак, зроблены электронна-аптычнымі прыборамі ў інфрачырвоным спектры. Даследчык старажытнага абраза Віктар Шматаў піша пра яго чыстыя і звонкія фарбы, спакойнае высакародства і чысціню вобраза святой, пра спагадлівы ветлы выраз крыху наіўнага прыгожага твару, пра пяшчоту ў шырока расплюшчаных вачах.

Вучоны дапускае, што абраз з фондаў Рускага музея мог быць створаны не ў Візантыі, а ў самім Полацку паводле прысланага імператарам Мануілам грэцкага ўзору, які да нашых дзён не захаваўся. Пэўныя падставы для гэтай гіпотэзы дае стылёвае падабенства Полацкай Маці Божай з манументальным жывапісам Спасаўскай царквы.

Як вядома, заказчыцай фрэсак у пабудаваным Іаанам храме была Еўфрасіння. Тут яна зноў выступае як збіральніца і апякунка талентаў.

Спасаўская царква — адзіны на Беларусі храм, дзе фрэскавыя размалёўкі XII стагоддзя захаваліся амаль цалкам. Размешчаныя ярусамі фрэскі ўпрыгожвалі сцены, слупы і купал. Шматфігурныя кампазіцыі чаргаваліся з аднафігурнымі. Старажытныя выявы і цяпер хвалююць сваёй адухоўленасцю, стрыманай, але багатаю гамай, у якой спалучаюцца карычневыя, чырвоныя, жоўтыя, сінія, смарагдавазялёныя колеры і адценні.

Пакуль што размалёўкі раскрытыя толькі фрагментарна і асноўная іх частка захоўваецца пад алейнымі фарбамі XIX стагоддзя, што апошнім часам з прычыны неспрыяльнага тэмпературна-вільгацевага рэжыму сталі інтэнсіўна ападаць.

Упершыню работа па расчыстцы полацкіх фрэсак пачалася ў 1929 годзе экспедыцыяй Цэнтральнай дзяржаўнай рэстаўрацыйнай майстэрні (Масква), у склад якой уваходзіў вядомы жывапісец і мастацтвазнаўца І.Грабар. Потым размалёўкі Спасаўскай царквы вабілі да сябе шмат іншых даследчыкаў. У 80-я гады фрэскі вывучала экспедыцыя сектара старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Грунтоўны іх аналіз зроблены Вольгай Царашчатавай у яе кнізе «Старажытнабеларускі манументальны жывапіс XI—XУIII стагоддзяў».

Ці не самым цікавым адкрыццём апошняга часу сталі фрагменты размалёвак у келлі самой Еўфрасінні. Прастору сцен яе малельні займалі кампазіцыі сямiфігурнага «Дэісуса», «Звеставання», «Укрыжавання», «Грамніц» і іншыя. Адметныя рысы гэтых фрэсак — іхняя камернасць і маляўнічасць. Тут захавалася выява Дзевы Марыі, тонкія дасканалыя лініі твару якой нагадваюць найлепшыя грэцкія ўзоры.

Фрэскі Спасаўскай царквы ўражваюць псіхалагічнай глыбінёю, эмацыянальнасцю, духоўнай актыўнасцю вобразаў. Полацкія майстры былі добра знаёмыя з класічнай візантыйскаю манерай жывапісу той эпохі, а таксама з прыёмамі раманскага мастацтва. Некалькі манер малявання (абліччы з буйнымі рысамі, суровым змрочным паглядам, з павялічанымі вачыма на адных фрэсках і амаль партрэтныя выявы на другіх) наводзяць на думку, што тут працавалі некалькі жывапісцаў.

Найбольш індывідуалізаваныя ў храме Спаса жаночыя вобразы. На такі жыццёва верагодны паказ не адважваліся ні кіеўскія, ні наўгародскія мастакі. Самае моцнае ўражанне пакідае святая на паўночна-заходнім гранёным слупе, які падтрымлівае хоры. Твар з дугападобнымі бровамі і асабліва вочы намаляваныя настолькі пранікнёна, з такой жыццёвай пераканаўчасцю, што міжволі ўзнікае думка: перад намі не святая, а рэальная зямная жанчына. Дапытлівы і цвёрды

позірк яе глыбокіх вачэй кажа пра багатае і напружанае духоўнае жыццё, выклікае на роздум аб годнасці чалавека, сэнсе ягонага існавання. Няма нічога дзіўнага ў тым, што некаторыя даследчыкі ўжо даўно называюць гэты фрагмент партрэтам самой Еўфрасінні Полацкай. Ва ўсякім разе, на мастака не магла не ўплываць цялесная і духоўная прыгажосць асветніцы і яе сясцёр.

## Крыж Лазара Богшы



Зімем найпадобнейшай Еўфрасінні звязана і стварэнне полацкім майстрам Лазарам Богшам славутага крыжа — шэдэўра старажытнабеларускага ювелірнага мастацтва.

Богша зрабіў яго на заказ князёўны-ігуменні ў 1161 годзе. Крыж выконваў ролю каўчэга для захавання атрыманых з Канстанцінопаля і Ерусаліма (магчыма, адначасова з абразом Багародзіцы) хрысціянскіх святыняў.Аснова шасціканцовага крыжа драўляная. У часы Еўфрасінні асабліва важныя культавыя рэчы выраблялiся з кіпарысавага дрэва. Найверагодней, што яго скарыстаў і полацкі майстар. Прынамсі, вопісы рэліквіі, зробленыя ў XIX стагоддзі, яе дрэва нязменна называюць кіпарысавым, а не дубовым, як у больш позніх дакументах.

Крыж меў вышыню каля 52 сантыметраў; даўжыня верхняе папярэчкі — 14, ніжняе — 21, таўшчыня — 2,5 см. Зверху і знізу дрэва закрывалі залатыя пласткі (усяго 21), аздобленыя каштоўнымі камянямі, арнаментальнымі кампазіцыямі і дваццаццю эмалевымі абразкамі з выявамі святых.

Лазар Богша быў не проста выдатна знаёмы з тэхнікай перагародкавай эмалі: ягоныя абразкі не саступаюць найлепшым узорам візантыйскага ўжытковага мастацтва, якія мелі сусветную славу.

На верхніх канцах крыжа майстар размясціў паясныя

выявы Хрыста, Багародзіцы і Іаана Папярэдніка. У цэнтры ніжняга перакрыжавання — чацвёра евангелістаў, на канцах — архангелы Гаўрыіл і Міхаіл. Унізе — патроны (апекуны) заказчыцы і яе бацькоў: св.Еўфрасіння Александрыйская, святыя пакутнікі Георгій і Сафія. На адваротнай паверхні — выявы айцоў царквы Іаана Залатавуснага, Васіля Вялікага, Грыгорыя Багаслова, апосталаў Пятра і Паўла, а таксама святых Стэфана, Дзімітрыя і Панцялѐймана. Над кожным абразком часткова грэцкімі, часткова славянскімі літарамі зроблены надпіс.

У сярэдзіне крыжа ў пяці квадратных падпісаных гнёздах знаходзіліся рэліквіі: кроплі крыві Ісуса Хрыста, кавалачак крыжа Гасподняга, драбок каменя ад дамавіны Багародзіцы, часткі мошчаў святых Стэфана і Панцялеймана ды кроў св.Дзімітрыя. Бакі святыні былі абкладзеныя дваццаццю срэбнымі з пазалотаю пласткамі, а брыжы пярэдняга боку абведзеныя шнурком перлаў.

Крыж Еўфрасінні Полацкай — адначасова і каштоўны помнік старажытнабеларускага пісьменства. Кароткі дробны надпіс на адваротным баку, каля мошчаў св.Панцялѐймана, паведамляе нам імя аўтара гэтага мастацкага шэдэўра і тое, што ён створаны дзеля храма святога Спаса: «Господи, помози рабоу своемоу Лазорю, нареченомоу Богъши, съделавъшемоу крьстъ сии црькви святаго Спаса и Офросиньи». Пачатак надпісу супадае з тым, што быў высечаны на Барысавых камянях.

На пазлачоных пластках выбіты вялікі тэкст з цікавымі гістарычнымі звесткамі: «Въ лето 6669 покладаеть Офросинья чьстьный крстъ въ манастыри своемъ въ црькви святого Спаса. Чьстьное древо бесценьно есть, акованье его злото и серебро и каменье и жьнчюгъ въ 100 гривнъ а да... (пропуск.— *У.А.*) 40 гривнъ. Да не изнесеться из манастыря никогда же, яко ни продати ни отдати. Аще се кто преслоушаеть изнесеть и от манастыря, да не боуди емоу помощникъ чьстьный крестъ ни въ се(й) векъ ни въ боудоущий и да боудеть проклятъ святою животворящею троицею и святыми

отци 300 и 50 (?) семию съборъ святыхъ отець, и боуди емоу часть съ Июдою, иже преда Христа. Кто же дрьзнеть сътворити се ... властелинъ или князь или пискоупъ или игоуменья или инъ который любо человекъ и боуди емоу клятва си. Офросинья же, раба Христова, сътяжавъши крестъ сий, прииметь вечную жизнь съ всеми святыми...»

Перакладзем гэты тэкст на беларускую мову: «У лета 6669 (паводле сучаснага летазлічэння, 1161.— *У.А.*) кладзе Еўфрасіння святы крыж у сваім манастыры, у царкве свято-га Спаса. Дрэва святое бясцэннае, акова ж яго золата і срэбра, і камяні, і перлы на 100 грыўняў, і да... (пропуск) 40 грыўняў. І хай не выносяць яго з манастыра ніколі, і не прадаюць, не аддаюць. Калі ж не паслухаецца хто і вынесе з манастыра, хай не дапаможа яму святы крыж ні ў жыцці гэтым, ні ў будучым, хай пракляты будзе ён святой жыват-ворнаю Тройцаю ды святымі айцамі 300 і 50 (?) сямі сабо-раў святых айцоў і хай напаткае яго доля Іуды, які прадаў Хрыста. Хто ж насмеліцца ўчыніць такое... валадар або князь, або епіскап ці ігуменння, або іншы які чалавек, хай будзе на ім гэты праклён. Еўфрасіння ж, раба Хрыстова, што справіла гэты крыж, здабудзе вечнае жыццё з усімі святымі...»

У першай частцы тэксту паведамляецца кошт дарагіх ме-талаў і камянёў, што пайшлі на аздабленне крыжа. 40 грыўняў — мабыць, плата, якую атрымаў сам Лазар Богша. Гэта былі вялікія на той час грошы: прыкладна столькі плацілі за машчэнне 8000 локцяў (4000 метраў) драўлянай мастоўкі або за 160 лісіных шкур. Адсюль можна зрабіць выснову, што Лазар Богша — заможны раменнік-ювелір, асабіста свабодны чалавек. Богша — ягонае свецкае імя, магчыма, скарочаная форма ад Багуслаў. Мы памятаем, што наяўнасць двух імёнаў была тады традыцыяй: бацька заказ-чыцы крыжа князь Георгій меў, напрыклад, яшчэ адно імя — Святаслаў.

Другая палова вялікага надпісу — тыповы заклён той эпохі, калі рабункі цэркваў былі нярэдкаю з'яваю нават у

мірны час. Здараліся і выпадкі, калі каштоўныя рэчы, ад'язджаючы, забіралі з сабою з храмаў архірэі.

Першая, дзелавая частка захаванага на крыжы тэксту напісаная на старажытнарускай мове, а ў другой аўтар (верагодна, сама Еўфрасіння) звяртаецца да царкоўнаславянскае і выкарыстоўвае ўласцівыя рэлігійнай літаратуры вобразы. Надпіс мае ўплыў жывой беларускае мовы з ейным аканнем — «манастыр», «акованье»; гэтае ўздзеянне адчуваецца і ў лексіцы — «пискоупъ» (епіскап), «древо», «злото». Сустракаецца ў тэксце таксама дзесяцярычнае «і».

Змешчаны на крыжы заклён, што абяцаў страшную кару таму, хто ўкрадзе або аддасць ці прадасць святыню, безумоўна, дзейнічаў на сучаснікаў Еўфрасінні і на іхніх нашчадкаў. І ўсё ж страх перад праклёнам не быў неадольным. Пасля смерці асветніцы крыж Лазара Богшы заставаўся ў Спасаўскім манастыры нядоўга. Відаць, ужо на мяжы XII—XIII стагоддзяў яго вывезлі з Полацка смаленскія князі. Крыж захоўваўся ў іх, пакуль вялікі князь Васіль III, захапіўшы ў 1514 годзе Смаленск, не забраў рэліквію ў Маскву.

Пад 1563 годам Ніканаўскі летапіс паведамляе: «Когда же боголюбезный царь и великий князь (Іван Жахлівы.— *У.А.*) мысля итти на отступников крестьянския веры на безбожную Литву,бе же тогда в его царской казне крест Полоцкий украшен златом и камением другим, написано же на кресте: «Зделан сий крест в Полотцску повелением княжны Евфросинии и поставлен во церкви всемилостиваго Спаса, да не изнесит ис тое церкви никтоже; егда же кто его из церкви изнесет, да приимет с тем суд в день судный». Нацыи же поведают: в прежний некогда Смолняне и Полочане держаше у себя государей князей по своим волям и межь себя смолняне съ полочаны воевахуся и тот крест честный Смолняне въ Полотцку взяша в войне и привезоша въ Смоленеск, егда же благочестивый государь князь великий Василей Ивановичь всеа Русии вотчину свою Смоленеск взял, тогда же и тот честный крест взя с собою и имея

надежду на милосердаго Бога и на крестьную силу победити врага своя, еже и бысть».

Пад час аблогі Полацка зімою 1563 года Іван Жахлівы спыняўся паблізу Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. Магчыма, тады, просячы ў неба перамогі, цар і загадаў вярнуць полацкую святыню на яе ранейшае месца. Мог ён зрабіць гэта і крыху пазней — калі замольваў грахі пасля ўчыненых на ягоны загад у Полацку крывавых злачынстваў. Як сведчаць гістарычныя крыніцы, пасля захопу Полацка маскоўскім войскам там было знішчана ўсё іншавернае насельніцтва. 11 060 сялян, якія схаваліся ад акупантаў у Ніжнім замку, цар раздаў падначаленым. 50 000 мяшчан і шляхты таксама былі ўзятыя ў палон. Тысячы галодных, абы-як апранутых людзей пагналі па зімовых дарогах на ўсход, у Масковію. Тыя, хто адмовіўся ад царскай службы, разам з жонкамі і дзецьмі доўга сядзелі па турмах у кайданах, и 665 палонных па загадзе Івана Жахлівага былі забітыя.

У 1579 годзе горад узялі войскі караля Польшчы і вялікага князя Літоўскага Стэфана Баторыя. Неўзабаве царква Спаса, дзе знаходзіўся крыж Еўфрасінні, паводле каралеўскае волі перайшла да езуітаў. З гэтага часу палачане захоўвалі рэліквію ў Сафійскім саборы, які з канца ХУІ стагоддзя да 1839 года быў уніяцкім храмам. Згодна падлікаў беларускага гісторыка Анатоля Грыцкевіча, у канцы ХУІІІ стагоддзя уніяты, або грэка-каталікі, складалі на беларускіх землях не меней трох чвэртак насельніцтва. Уніяцтва зрабілася, па сутнасці, нацыянальнай рэлігіяй.

Добра разумеючы ўплыў рэліквіі на вернікаў-беларусаў, езуіты распачалі судовы працэс, каб вярнуць крыж у Спасаўскую царкву. Галоўным іх аргументам быў старажытны надпіс. Прайграўшы суд, новыя гаспадары Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра паспрабавалі атрымаць святыню хітрасцю. Аднойчы, калі на свята Узвіжання рэліквію вынеслі на сярэдзіну храма, пасланец езуітаў падмяніў яе, паклаўшы на аналой падрыхтаваную загадзя падробку. Але

вернікі-уніяты хутка заўважылі падмену і здагналі выкрадальніка на вуліцы.

Калі ў 1812 годзе Полацк на колькі месяцаў трапіў у рукі французаў, крыж захоўваўся ў сцяне Сафійскага сабора ў замураванай нішы.

Пасля гвалтоўнага скасавання царскімі ўладамі Уніі і аднаўлення праваслаўнага Спасаўскага сабора з'явіліся ўмовы для вяртання рэліквіі на яе першапачатковае месца. Былы уніяцкі архіепіскап Васіль Лужынскі, які перайшоў у праваслаўе, зрабіў з крыжам святой Еўфрасінні падарожжа ў Маскву і ў Пецярбург. У паўночнай сталіцы крыж прывезлі ў саборную царкву Зімовага палаца, дзе рэліквію агледзеў імператар Мікалай І. Існавала небяспека, што святыня можа назаўсёды застацца ў Пецярбурзе, але на цара і прыдворных, відаць, паўплываў старажытны надпіс на крыжы.

23 траўня (ст. стылю) 1841 года хросны ход урачыста перанёс рэліквію з Сафійскага сабора ў храм Спаса. Крыж паклалі ў келлі, дзе найпадобнейшая Еўфрасіння пражыла свае апошнія гады.

Дадамо, што ў адным з беларуска-літоўскіх летапісаў — «Хронікі Быхаўца» — ёсць згадка пра дачку полацкага князя Васіля Параскеву, што была абвешчаная ў Рыме святою пад імем Праксэды. Гэтая князёўна пастрыглася ў манастыр Спаса над Палатой, дзе сем гадоў перапісвала кнігі. Потым яна прыехала ў Рым і жыла, аддана служачы Богу. Там памерла і была пахаваная, прычым у яе гонар пабудавалі бажніцу. Некаторыя аўтары лічаць гэтае летапіснае апавяданне каталіцкай рэдакцыяй жыццяпісу Еўфрасінні. Захаваліся звесткі пра крыж з надпісам, што ў ім ёсць частка святога дрэва, падараванага Праксэдзе рымскім папам Аляксандрам ІУ. Гэты крыж быў копіяй крыжа Еўфрасінні. Цяпер ён знаходзіцца ў Яраслаўска-Растоўскім музеі-запаведніку.

## Хто выкраў рэліквію?



Лёс крыжа Еўфрасінні Полацкай у савецкі час варты асобнага нарыса, які будзе моцна нагадваць дэтэктыў.

У 1921 годзе крыж рэквізавалі бальшавікі. Так з-пад апекі духавенства ён сярод іншых царкоўных каштоўнасцяў трапіў пад чорнае крыло ОГПУ, установы, што займалася ў краіне ўсім, у тым ліку і нацыянальнымі святынямі.

З канца дваццатых гадоў не забяспечаная дэмакратызацыяй грамадства палітыка адраджэння нацыянальнай культуры, вядомая пад назваю «беларусізацыя», пачала па камандзе з Масквы хутка згортвацца. Пасля публікацыі ў 1928 годзе пагромнага артыкула сакратара ЦК КП(б) Беларусі Вільгельма Кнорына «Аб рашаючых «дробязях» у вялікім пытанні» распачынаецца падрыхтоўка да расправы з нацыянальнай інтэлігенцыяй. Наперадзе незлічоныя арышты, этапы, лагеры і расстрэлы...

У той трывожны час былы прэм'ер БНР*, дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея Вацлаў Ластоўскі выязджае з адмысловаю экспедыцыяй у Полацк. Мэта — пошукі неацэннага твора Лазара Богшы.

Крыж Еўфрасінні «знайшоўся» ў мясцовым фінаддзеле і быў перавезены ў Менск. Але над рэліквіяй ужо навісла пагроза. Наступ на беларускую культуру працягваўся. «Чыстка» ішла не толькі сярод людзей, але і паміж музейных экспанатаў. Грунтоўна ператрасалі фонды і найперш, вядома, у музеі, на чале якога стаяў такі нядобранадзейны чалавек, як Ластоўскі. Частку экспанатаў на загад пільных апекуноў нацыянальнае культуры вывозілі за межы Беларусі або проста знішчалі. Найбольш дарагія рэчы забіралі ў сталіцу сталінскае імперыі. Паводле звестак беларускага

* Беларуская Народная Рэспубліка, абвешчаная 25 сакавіка 1918 года.

даследчыка з ЗША Вітаўта Тумаша, зроблены ў часе другой сусветнае вайны перагляд інвентарных кніг паказаў, што ў 20—30-х гадах з Беларускага дзяржаўнага музея ў Маскву вывезлі ўсе самыя каштоўныя абразы, увесь залаты і срэбны посуд, збор слуцкіх паясоў і народных строяў, калекцыю старажытных манет з беларускіх скарбаў, унікальныя архіўныя матэрыялы. Пад кіраўніцтвам ОГПУ адбываўся рабунак культурнае спадчыны народа з мэтаю разбурэння яго нацыянальнае свядомасці.

Гэтае злачынства напачатку праходзіла пад выглядам эвакуацыі каштоўнасцяў далей ад дзяржаўнае мяжы. Страх перад «інтэрвенцыяй міжнароднай буржуазіі» разам з іншымі, унутранымі прычынамі нарадзіў ідэю перанесці сталіцу БССР у Магілёў. Горад рыхтаваўся да новай ролі. Ішло метадычнае знішчэнне храмаў, уадначас у Магілёў пераводзіліся рэспубліканскія ўстановы, будаваўся Дом урада. У 1929 годзе ў Магілёў трапіў і крыж Еўфрасінні Полацкай.

Апублікаваныя доктарам Тумашам у «Запісах Беларускага інстытута навукі і мастацтва» ў Нью-Йорку дакументы дазваляюць прасачыць ходу падзей.

21 лістапада супрацоўнік аддзела фельд'егерскай сувязі Паўнамоцнага прадстаўніцтва ОГПУ па Беларускай вайсковай акрузе тав. Лугаўцоў атрымаў ад начальства даверанасць «на право получения ценностей из Государственного Музея, для отправки таковых в гор. Могилев». Даверанасць падпісалі начальнік фельдаддзела А.Іваноў і інструктар А.Пішчык.

Тым самым днём датаваны і акт аб перадачы крыжа Еўфрасінні ў рукі Лугаўцова. У гэты час В.Ластоўскі ўжо не працаваў дырэктарам, аднак нацыянальную рэліквію ён перадаваў «чэкісту» яшчэ за сваім подпісам, бо, відаць, быў за яе асабіста адказны.

Зрэшты, дамо слова самому дакументу, захаваўшы яго арфаграфію і пунктуацыю.

АКТ

## 1929 г. 21-га лістапада складзены гэты акт аб перадачы Беларускім Дзяржаўным Музэям у Менску Беларускаму Музэю ў Магілеве крыжа Эфросініі Полацкай.

1) Футляр медны пасярэбраны, пазалочаны з пабітым шклом, у сярэдзіне крыжу футляр падобны.

б) на футляры ёсьць славянскія надпісы.

2) Крыж зроблены з дубовага* дрэва і абложаны золатам і славянскімі буквамі.

3) Пад верхняй папярэчкай крыжа не дастае 2-х кавалкаў золата і дрэва.

4) На верхняй папярэчцы крыж, які быў вылажаны каменьнямі, каменьняў няма.

5) Унізе крыжа зроблена надстаўка.

6) На верхнім канцы крыжа ёсьць уноў-дарobленая выабражэньне багародзіцы (жоўтага мэталю).

7) Правае крыло верхняга боку крыжа заложана такой самай устаўкай новага мэталю.

8) З ліцавога боку крыж кругом абведзены шнурком на нітцы жэмчуга.

9) З ліцавога боку выламана тры з эмалі прэабражэньня сьвятых.

10) 10-ць выабражэньняў сьвятых папсаваны.

11) У верхняй папярэчцы ў пазах 4-хкантовага крыжу 4 гнязды, у якіх няма каменьняў.

12) У ніжняй папярэчцы ў пазах 4-хкантовага крыжу 4 гнязды, у якіх няма каменьняў.

13) З ліцевога боку 8 гнёзд, запоўненых каменямі, з якіх 3 на дзержаньні авальнай формы, 2 сініх і 1 цёмна-чырвон.

14) На правым баку ніжняй папярэчцы круглы амэціст прыбіты 2-мя цьвікамі і на левым баку ніжняй папярэчцы белы камень.

---

* Верагодней — з кіпарысавага.

15) Паміж верхняй і ніжняй папярэчкай белы камень авальнай формы.

16) На верхняй папярэчцы 2 камені белага шкла.

17) На адвароце крыж гладкі, пакрыты эмалью з выбражэньнем 3-х сьвятых папсаван. З трох гнёзд рэліквіі адно пустое.

18) З верхняга боку крыжа паложана рубчатая акоўка, у якой трымаецца жамчуг, часьці яе з правага боку пад палукруглым пазухам абломана. (Апісаньне зроблена паводле акту, складзенаму у Полацку пры перадачы крыжа Ластоўскаму і акту прыёмачнаму складзенаму, у Менску.)

Далей падаецца апісаньне паводле акту камісіі з удзелам ювэліра-экспэрта:

1. На рукаятцы 1 ніжні блакітны авальны камень — ёсьць афарбаванае шкло.

2. Другі знізу на рукаятцы цёмна-чырвонага колеру, авальны камень — ёсьць гранат, каштоўнасьць якога прыблізна 3—5 рублёў.

3. Трэйці на рукаятцы авальны блакітны камень — ёсьць афарбаванае шкло.

ІІ. На ніжняй папярэчцы злева авальны белы камень сэрдалікавага пераліву — ёсьць афарбаванае шкло; з правага боку гэтай папярэчцы гранёны круглы камень — ёсьць амэтыст, пастаўлены значна пазьней, каштоўнасьць яго каля 1-го рубля.

ІІІ. Паміж ніжняй і верхняй папярэчкай авальна-гладкі камень сэрдалікавага пераліву — ёсьць афарбаванае шкло.

ІУ. На верхняй папярэчцы 2 круглыя, плоскія, гладкія камяні луннага колеру — шкло.

Усяго на крыжу 8 каменьняў, з якіх 6 — шкло, 1 амэтыст і 1 гранат.

У. Шнурок жэмчугу, якім абведзены весь крыж, важыць 32 і 5 грама разам з ніткай. Жэмчуг увесь праўдзівы, родадзкі (? — *У.А.*), перамяшаны з так званым яўрэйскім, прыблізная каштоўнасьць іх усіх — каля 200 рубл.

(Далейшы тэкст акту дапісаны чарнілам, рукою Вацлава Ластоўскага):

Крыж гэты запісаны ў кнігу экспанатаў Беларускага Дзяржаўнага Музэю ў Менску пад № 7591.

Крыж здадзены, згодна распараджэньню Наркомасьветы, былым дырэктарам БДМ тав. Ластоўскім В.Ю. прадстаўніку Фэльдаддзела ПП ОГПУ по БВО тав. Лугаўцову, згодна даверанасьці Фэльдаддзела ПП ад 21/XI. 29 г. за № 68813 для дастаўкі ў Магілеўскі Дзяржаўны Музэй і перадачы яго асабіста дырэктару Музэю тав. Вінікаву У.Л.

Перадача адбылася ў прысутнасьці: дырэктара БДМ у Менску тав. М.І.Шапавалава, дырэктара БДМ у Магілеве тав. У.Л. Вінікава, нам. дыр. БДМ у Менску тав. А.В.Бурдзейкі.

Здаў В.Ластоўскі (подпіс).

Для перадачы дырэктару Магілеўскага Музэю т. Вінікаву прыняў Лугаўцоў (подпіс).

Прысутнічалі: М.Шапавалаў (подпіс).
В.Виников (подпіс).
А.Бурдзейка (подпіс).

(Далейшая дапіска зроблена 22 лістапада 1929 г. ужо ў Магілёве.) Вызначаны ў гэтым акце крыж у стане згодна акту 1929 году, лістапада 22 дня а дзевятай гадзіне ў вечары на месцы атрымаў ад т. Лугаўцова, пръставіўшага гэты крыж па даручэньню БДМ у Магілеўскі Дзярж. Музэй.

Дырэктар Магілеўскага Дзярж. Музэю — В.Виников (подпіс).

Крыж здаў Лугаўцоў (подпіс).

Прысутнічалі:
Навуковы супрац. Магілеўскага Дзярж. Музэю
(подпіс нечытэльны)
(другі подпіс нечытэльны)

Круглая пячатка з надпісам усярэдзіне: Археографический Научный Музэй.

Надпіс навокала:
Пролетарии всех стран соединяйтесь!

Дакументы сведчаць, што ў той самы дзень В.Ластоўскі здаў Лугаўцову за сваім подпісам і перапісанае ў 1582 годзе слуцкім князем Юрыем Алелькавічам Евангелле, якое паходзіла з бібліятэкі Свята-Траецкага манастыра ў Слуцку. Дзе гэтая унікальная кніга сёння — таксама вялікая загадка.

Але наша гаворка — пра адысею крыжа Еўфрасінні Полацкай.

Напрыканцы XIX стагоддзя сябра рады Полацкага царкоўнага брацтва святар М.Дуброўскі зрабіў вопіс рэліквіі, які цікава параўнаць са звесткамі пададзенага вышэй акта.

Паводле першага вопісу, з 20 эмалевых абразкоў на крыжы няма аднаго, а пяць іншых — пашкоджаныя. У 1929 годзе тры выявы святых ужо выламаныя, а 13 — папсаваныя. З усіх каштоўных камянёў ацалелі два — аметыст і гранат. На месцы астатніх засталіся пустыя гнёзды або з'явіліся кавалачкі рознакаляровага шкла. На верхняй папярэчыне не хапала двух кавалкаў золата і дрэва. Як бачым, «ваяўнічыя атэісты», а дакладней — варвары-бязбожнікі, за лічаныя гады ўчынілі святыні шкоду шматкроць большую за ўсе страты папярэдніх сямі з паловаю стагоддзяў.

Па ўспамінах магілёўскага краязнаўцы і былога супрацоўніка музея Ераніма Філіповіча, на новым месцы крыж Еўфрасінні змясцілі ў музейную экспазіцыю, але шмат хто з наведнікаў, асабліва жанчыны, пачалі перад святыняю маліцца і адбіваць ёй паклоны. Напэўна, гэта таксама адыграла ролю ў перавозе крыжа з музея ў будынак былога зямельнага банка, дзе ў 30-я гады мясціліся абком і гарком партыі. Будынак меў адмысловы пакой з масіўнымі кратамі на вокнах і браніраванымі дзвярыма таўшчынёю 15 сантыметраў, за якімі былі яшчэ адны — кратаваныя. Менавіта ў гэтым пакоі-сейфе колішняга банка на пачатку вайны разам з іншымі найкаштоўнейшымі музейнымі экспанатамі ляжаў крыж Еўфрасінні Полацкай. Згодна афіцыйнай вер-

сіі, адтуль у 1941 годзе яго выкралі фашыстоўскія захопнікі.

Але ці так было ў сапраўднасці? Магілёў жа знаходзіўся за паўтысячы кіламетраў ад дзяржаўнае мяжы, і час дазваляў правесці эвакуацыю скарбаў. Гэта і нарадзіла чуткі, што рэліквія паехала ў гады ваеннага ліхалецця на ўсход.

Такім размовам спрыяла і тое, што і афіцыйныя ўлады, і гэтак званыя кампетэнтныя органы чамусьці пазбягалі расследавання або праводзілі яго таемна, не паведамляючы вынікаў.

У 60-я гады Магілёўскі абласны музей звярнуўся з запытам наконт лёсу крыжа ў Эрмітаж. Адтуль прыйшоў не падмацаваны ніякімі дакументамі адказ, што крыж Еўфрасінні Полацкай трапіў у зборы мільянераў Морганаў і знаходзіцца ў Нью-Йорку.

Праз нейкі час гэтая заблытаная гісторыя прыцягнула ўвагу вядомых вучоных, супрацоўнікаў Акадэміі Навук БССР літаратуразнаўца Адама Мальдзіса і археолага Георгія Штыхава. Вынікам іхняе паездкі ў Магілёў стаўся зварот да найвышэйшых рэспубліканскіх інстанцый, пасля чаго названых вучоных, а таксама дырэктара абласнога музея І.Скварцова і былога дырэктара І.Мігуліна выклікаў да сябе тагачасны намеснік старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі І.Клімаў, які ўзначальваў Рэспубліканскае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

Як прыгадвае Скварцоў, размова адбывалася прыкладна ў такім тоне:

«Клімаў: Что вам нужно?

Скварцоў: Мне лично ничего не нужно. Пропали ценнейшие белорусские реликвии, но ими никто не интересуется.

Клімаў: Какие у вас есть документы?»

Дырэктар музея працягнуў чыноўніку адказ з Эрмітажа пра знаходжанне крыжа ў калекцыі Морганаў. Прачытаўшы паперыну, Клімаў павярнуўся да І.Мігуліна, які быў дырэктарам Магілёўскага музея напярэдадні вайны: «Ну, расскажи, старик...»

І той падзяліўся ўспамінамі, як у першыя дні вайны яго

ўзялі ў апалчэнне, а 29 чэрвеня 1941 года ён з двума такімі самымі апалчэнцамі апынуўся каля горада Бялынічы, дзе яны рэквізавалі коней і вярнуліся ў Магілёў. Там ён прыйшоў у абласны ваенкамат і запатрабаваў транспарт для эвакуацыі свайго музея, але нічога не дасягнуў і заняўся эвакуацыяй жонкі і двух малых дзяцей. На станцыях з вагонаў нікога не выпускалі, і пра ўзяцце Магілёва немцамі Мігулін даведаўся толькі на пятнаццатыя суткі.

Клімаў паспачуваў, зазначыўшы, што і сам ведае, як цяжка было праводзіць эвакуацыю. Гутарка скончылася перадачаю яму копіі акта аб стратах абласнога музея ў выніку нямецкае акупацыі.

Пра гэта ў артыкуле «Таямніца крыжа» ў 1990 годзе распавёў на старонках газеты «Советская Белоруссия» супрацоўнік Магілёўскага абласнога аддзялення Беларускага фонда культуры В.Юшкевіч. Ён падае і вышэйназваны акт, які з прычыны яго важнасці для пошукаў страчаных нацыянальных каштоўнасцяў прыводзім цалкам.

### АКТ

22.XII.1944 года. гор.Могилев.

Мы, нижеподписавшиеся, комиссия в составе 3-х человек: директора музея тов. Мигулина Ивана Сергеевича, учителя Мог. педучилища тов. Авсеенкова Вячеслава Дмитриевича и инженера Мог. обл. к-ры промбанка тов. Кроера Сергея Митрофановича с участием эксперта-свидетеля художника г. Могилева тов. Пономарева Владимира Александровича составили настоящий акт об ущербе, причиненном немецко-фашистскими захватчиками и их сообщниками Могилевскому областному государственному историческому музею, находящемуся в г. Могилеве по ул. Ленинской.

Сожжено и разграблено немецкими оккупантами в 1941 году. Перечень отдельных видов разрушенного, уничтоженного, расхищенного и поврежденного имущества:

| №№ пп | Виды имущества (по номенклатуре) | Един. изм. | К-во полностью разрушенного, уничтоженного, расхищенного | Стоимость причиненного ущерба (в руб.) |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Археологическая коллекция каменных орудий и предметов материальной культуры | Предм. | 500 | 2.000.000 |
| 2. | Собрание белорусских рукописных и старопечатных книг и грамот | Экз. | 175 | 3.000.000 |
| 3. | Нумизматическая коллекция | Монет | 18 000 | 1.500.000 |
| 4. | Коллекция холодного и огнестрельного оружия X—XIУ вв. и др. доспехов и вооружения | Предм. | 280 | 1.000.000 |
| 5. | Коллекция образцов художественной работы по дереву белорусских мастеров XУI—XУIII вв. | Предм. | 120 | 3.000.000 |
| 6. | Коллекция художеств. фарфоровых изделий XУIII—XIX вв. | | 170 | 500.000 |
| 7. | Историческая библиотека | Томов | 1200 | 500.000 |
| 8. | Ризы, оклады и др. церковная и бытовая утварь XIУ—XУIII вв. Художеств. работы местных мастеров | Предм. | 1900 | 10.000.000 |

| №№ пп | Виды имущества (по номенклатуре) | Един. изм. | К-во полностью разрушенного, уничтоженного, расхищенного | Стоимость причиненного ущерба (в руб.) |
|---|---|---|---|---|
| 9. | Коллекция икон письма XIII—XУIII вв. Работы белорусских мастеров | Экз. | 150 | 5.000.000 |
| 10. | Крест Ефросиньи Полоцкой работы византийских мастеров | Шт. | 1 | 6.000.000 |
| 11. | Золотой, серебряный ключ гор. Могилева ювелирной работы XУIII века | Шт. | 1 | 1.000.000 |
| 12. | «Екатерина Святая» работы Боровиковского | Масло | 1 | 5.000.000 |
| 13. | «Иосиф Обручник» работы его же | -“- | 1 | 4.000.000 |
| 14. | «Мария» работы его же | -“- | 1 | 2.000.000 |
| 15. | «Христос» работы его же | -“- | 1 | 2.000.000 |
| 16. | «Портрет неизвестной дамы» | -“- | 1 | 1.000.000 |
| 17. | «Портрет Зубова» работы Левицкого | -“- | 1 | 2.000.000 |
| 18. | Этнографическая коллекция белорусской одежды XУII—XIX вв. | | | 1.500.000 |
| | Всего по настоящему акту: | | | 60.256.876 |

Паколькі спіс 1944 года быў няпоўны, разам з копіяй акта І.Клімаву ўручылі таксама запіску з пералікам іншых украдзеных з музея рэчаў, сярод якіх былі: срэбная булава караля Полышчы і вялікага князя Літоўскага Жыгімонта Вазы; дзве срэбныя пячаткі, атрыманыя Магілёвам разам з магдэбургскім правам; срэбная мітра магілёўскага праваслаўнага архіепіскапа Георгія Каніскага; вялікі кантовы срэбны спод з ціснёнымі выявамі сімвалічных сцэнаў, прысвечаных расейскаму цару Аляксею Міхайлавічу; вялікі срэбны кубак з партрэтам Пятра І; ужо згаданае раней слуцкае Евангелле 1582 года; колькі антычных залатых рэчаў (каралі, пярсцёнкі з каштоўнымі камянямі) з раскопкаў Пампеі ды іншыя унікальныя каштоўнасці. У гады вайны з музея зніклі таксама славутыя магілёўскі брацкі абраз з надзвычай багатым акладам і бялыніцкі абраз Божай Маці. Пра гэтыя святыні ўжо не адно дзесяцігоддзе ходзяць упартыя чуткі, што яны закапаныя дзесьці ў Магілёве.

Пасля сустрэчы з І.Клімавым рэспубліканскія ўлады на ўсе запыты вучоных адказвалі маўчаннем. Лёс нацыянальных скарбаў іх не цікавіў. Тады дырэктар музея І.Скварцоў запісаўся на прыём да начальніка абласнога ўпраўлення КГБ Дзямідава. Той выявіў зацікаўленасць і паабяцаў заняцца справаю пры ўмове, што атрымае каманду з абкома. Але хто і якую каманду даў Дзямідаву, засталося загадкаю, бо яго ў хуткім часе перавялі ў іншы горад.

Цяпер вернемся да падзей пачатку вайны. Усе, хто гаварыў з былым дырэктарам І.Мігуліным, звяртаюць увагу на блытаніну ў ягоных словах. Часам ён сцвярджае наогул, далікатна кажучы, малаверагодныя рэчы. Як мы ўжо ведаем, у першыя дні вайны Мігуліна ўзялі ў апалчэнне. Але ж ён быў інвалід — меў толькі адну руку, прычым левую.

Калі верыць аднарукаму апалчэнцу, у будынку абкома ў гады акупацыі стаяла вайсковая частка. Доўгі час на пакойсейф за браніраванымі дзвярыма ніхто не звяртаў увагі, але аднаго разу цікаўны жаўнер знадворку дабраўся па драбінах да закратаванага акна і ўбачыў, што за ім нешта блішчыць.

Пасля гэтага немцы нібыта зрэзалі цяжкія дзверы аўтагенам, ашалелі ад ззяння золата, срэбра і каштоўных камянёў і вывезлі ўсё немаведама куды. Такую гісторыю малюе Мігулін са словаў нейкіх магілёўцаў, што перажылі акупацыю.

Але ж сотні людзей могуць засведчыць, што старыя браніраваныя дзверы (да таго ж абсалютна цэлыя) у былым будынку зямельнага банка па вуліцы Міронава, 33 знялі толькі гадоў пяць-шэсць таму, а другія, кратаваныя, па-ранейшаму на месцы. Значыцца, версія з акупантамі, узброенымі аўтагенам, здымаецца.

На нашую думку, бліжэйшымі да праўды выглядаюць паведамленні старых магілёўскіх месцічаў, што ў чэрвені 1941 года ў будынак банка зайшла група людзей у форме НКВД, якія адчынілі пакой-сейф ключом, склалі каштоўнасці ў падрыхтаваныя загадзя мяхі і ад'ехалі ў невядомым кірунку.

Калі ўсё здарылася менавіта так, тыя НКВДэшнікі былі б яўна задаволеныя, прачытаўшы ў 1981 годзе ў газеце «Голас Радзімы» (якая, заўважым, выдаецца для замежных беларусаў) навелу Г.Ланеўскага «Украдзены крыж». Дзеянне ў гэтым творы, вытрыманым не ў лепшых традыцыях нашай ваеннай літаратуры, адбываецца ў чэрвені 41-га. Крыж, вядома, крадуць акупанты, прычым не з асабняка, у якім некалі мясціўся зямельны банк, а з музея, дзе рэліквіі, як даказваюць факты, ужо даўно не было.

Дваццаць гадоў таму Адам Мальдзіс надрукаваў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» артыкул «Сляды продкаў», выклаўшы там некаторыя з пададзеных раней звестак. Ішла гаворка і пра тое, што след рэліквіі можа знайсціся за акіянам. Пасля гэтага двое вядомых беларусаў-эмігрантаў Вітаўт Тумаш і Вітаўт Кіпель ад імя Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў ЗША звярнуліся да супрацоўнікаў размешчаных у Нью-Йорку Морганаўскіх бібліятэкі і калекцыі твораў мастацтва.

Спроба даведацца пра лёс крыжа нешта новае не дала

ніякіх вынікаў. Паведамляючы пра гэта ў друку, доктар Тумаш вельмі слушна зазначыў: дапамагчы ў пошуку магло б абнародаванне назваў устаноў і імён асобаў, на адказнасці якіх крыж быў напярэдадні вайны. Канчаткова не абвяргаючы і версію захопу рэліквіі немцамі, замежны навуковец лічыць, што ў тых умовах крыж маглі лёгка прыбраць да рук «давераныя» асобы партыі і НКВД. У такім разе ён сапраўды паехаў з Магілёва не на захад, а на ўсход. Аднак жа і такі шлях не выключае магчымасці продажу нашай святыні на аўкцыёне (або таемна) за мяжу. Пагатоў, аўтар выдадзенай у 1949 годзе ў Парыжы кнігі «Сьв. Еўфрасіння-Прадслава» Леў Гарошка пісаў: «Каля 1930 г. былі паявіліся весткі ў газэтах, што бальшавікі мелі яго (крыж.— *У.А.*) прадаць у Швэцыю».

Магілёвец Е.Філіповіч прапанаваў А.Мальдзісу яшчэ адну нітачку пошукаў, пра якую вучоны расказаў у сваёй кнізе «Таямніцы старажытных сховішчаў»: «Настаяцель царквы ў імя Еўфрасінні ў Полацку Міхал Кузьменка называў прозвішча другога мільянера — Ракфелера. Нібыта ў архіве Ракфелера працаваў у 1962 годзе прафесар-гісторык з эмігрантаў Уладзімір Скаралецці, які і бачыў там крыж».

Яшчэ больш заблытвае справу існаванне копій полацкай рэліквіі. Месца знаходжання адной з іх — крыжа Параскевы Полацкай, мы ведаем. Але ж быў і дублікат, зроблены ў свой час езуітамі з мэтаю выкрадання арыгінала з уніяцкага Сафійскага сабора...

Амаль на два дзесяцігоддзі росшукі прыпыніліся. Іх працягнуў у 1990 годзе, апынуўшыся ў ЗША, вядомы беларускі журналіст Алесь Лукашук.

Варта зазначыць, што перад ад'ездам за акіян адзін дасведчаны ў такіх праблемах чалавек параіў яму ніякімі росшукамі не займацца, бо гэта можа кепска скончыцца. Тым не менш, Алесь выявіў зайздросную энергію.

Яму ўдалося пагутарыць з мастацкім экспертам Ракфелераўскага цэнтра ў Нью-Йорку Оліў Брагозі. Выслухаўшы

апісанне нашай нацыянальнай рэліквіі, пані Брагозі запэўніла, што падобнага крыжа ў мастацкай калекцыі Ракфелераў няма і ніколі не было.

З яе рэкамендацыі А.Лукашук звярнуўся ў прыватнае нью-йоркскае агенцтва, якое выдае сусветны каталог украдзеных твораў мастацтва. Аднак, як высветлілася, гэты каталог фіксуе толькі рэчы, што знаходзяцца ў вышуку пасля 1945 года, і не ўлічвае твораў, якія зніклі ў гады другой сусветнай вайны. Не абнадзеіла і тэлефонная размова з начальнікам агенцтва. Той лічыць, што калі крыж у Злучаных Штатах у прыватным зборы, знайсці яго практычна немагчыма. Такая інфармацыя можа выплысці на свет толькі выпадкова (напрыклад, калі пасля смерці калекцыянера будуць шукаць спадкаемцаў), дый гэта вельмі малаверагодна. Тое самае меркаванне выказаў А.Лукашуку і адзін з нашых суайчыннікаў-эмігрантаў, які шмат гадоў сочыць за каталогамі найбуйнейшых у свеце аўкцыёнаў па продажы мастацкіх твораў — «Сотбі» і «Крысці».

Наведаў беларускі журналіст і фундацыю Моргана. (Так называецца калекцыя, збіраць якую пачаў у другой палове XIX стагоддзя Перпонт Морган і якая цяпер з прычыны вялікае культурнае значнасці набыла грамадскі статус.) Супрацоўнікі фундацыі і бібліятэкі Перпонта Моргана на ўсе роспыты ветліва адказвалі, што нічога не ведаюць і не могуць даць ніякай інфармацыі. Вядома, наіўна было б адразу бачыць у гэтым нейкую змову. Прыкладна такія адказы, пэўна ж, чуе большасць наведнікаў, што можна растлумачыць прафесійнай асцярожнасцю. Узгадайма, колькі сусветна вядомых твораў мастацтва было ўкрадзена за апошнія гады ў розных краінах.

Трапіўшы на экскурсію ў ФБР, Алесь Лукашук выкарыстаў і гэтую магчымасць. Супрацоўніца аддзела экспертызы ласкава згадзілася пашукаць якія-небудзь звесткі пра рэліквію ў электроннай памяці сваіх камп'ютэраў. Адказ зноў быў несуцяшальны: камп'ютэры пра крыж Еўфрасінні нічога не ведалі.

Загадка крыжа не давала спакою і Адаму Мальдзісу. У часе ўрачыстасцяў, прысвечаных 500-годдзю ўсходнеславянскага першадрукара Францішка Скарыны, выпадак звёў беларускага вучонага з доктарам гістарычных навук супрацоўнікам Эрмітажа Барысам Сапуновым. Пасля літургіі ў Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры з размовы нечакана высветлілася, што пецярбургскі госць якраз і пісаў некалі адказ у краязнаўчы музей Магілёва. Ён пацвердзіў: крыж Еўфрасінні закуплены ў калекцыю Морганаў на аўкцыёне ў Заходняй Еўропе адразу па вайне, з чаго вынікае, што юрыдычных правоў на рэліквію ў нас, беларусаў, нібыта і няма, адно маральна-этычныя.

Апрача таго, А.Мальдзісу ўдалося даведацца, што пошукамі крыжа ў 60-я гады займаўся супрацоўнік Эрмітажа Бебут Шаўкоўнікаў. Гэты, відаць, прадпрымальны чалавек прыватна ездзіў у ЗША, імкнуўся пранікнуць у зборы Морганаў, але выявіў празмерны імпэт і атрымаў ад нейкіх маладзёнаў атлетычнага выгляду ветлівую прапанову ўгамавацца. У адваротным выпадку яны не гарантавалі Шаўкоўнікаву вяртання дадому. Тады ў 1966 годзе ён апублікаваў артыкул пра крыж Еўфрасінні ў амерыканскім мастацкім часопісе «Journal of glass studies», аднак абзац са згадкаю пра тое, дзе знаходзіцца рэліквія цяпер, у рэдакцыі выкраслілі без згоды аўтара. На жаль, новая нітачка расследаванню нічога не дасць, таму што Б.Шаўкоўнікаў ужо пакінуў гэты свет.

Праз колькі тыдняў пасля размовы ў Полацку А.Мальдзіс у складзе афіцыйнай беларускае дэлегацыі прыехаў у Нью-Йорк на чарговую сесію ААН. Абавязак вучонага і грамадзяніна Беларусі, натуральна, прывёў яго ў фундацыю Моргана, дзе адбылася сустрэча з пані Яўгеніяй Зазоўскай, рускай з паходжання, якая займаецца ў бібліятэцы Перпонта Моргана славянскімі рукапісамі і рэдкімі выданнямі.

«На маё пытанне, ці можна набыць або паглядзець каталог музейных фондаў, доктар Зазоўская адказала, што пра

яго існаванне ёй невядома. Што знаходзіцца ў сутарэннях будынка — а там асноўнае багацце — цалкам, бадай, невядома нікому»,— піша А.Мальдзіс у сваім «Нью-йоркскім дзённіку» ў 1990 годзе.

Зазначым адну дзіўную супярэчнасць. У 1974 годзе доктар В.Тумаш паведамляў у «Запісах Беларускага інстытута навукі і мастацтва» аб сваёй спробе высветліць месца знаходжання крыжа «і па каталогу калекцыі, і беспасярэднімі роспытамі». Атрымліваецца, што гэты каталог быў, як кажуць, у наяўнасці.

Доктару Зазоўскай пра ягонае існаванне ўжо невядома.

Яшчэ адна таямніца?

Тамсама, у Нью-Йорку, А.Мальдзіс сустрэўся са спадаром Антонам Шукялайцем, які ў гады нямецкае акупацыі ўзначальваў Менскі гістарычна-мастацкі музей, што ў 1941-м не паспелі эвакуіраваць. Ці не апынуўся крыж, як ходзяць чуткі, у Аўстраліі? Ці не разабралі яго, каб паасобку прадаць золата, срэбра і каштоўныя камяні з эмалямі? Спадар Шукялайць мяркуе, што шэдэўр полацкага ювеліра Лазара Богшы, найверагодней, вывезлі ўсё ж на ўсход. Ён абвяргае і версію пра разбор рэліквіі на часткі, і з ім цяжка не пагадзіцца, бо кошт золата і камянёў на крыжы параўнаўча невялікі; галоўная яго вартасць у тым, што гэта — высокамастацкі твор.

Нью-йоркскія пошукі завяршыліся ў кастрычніку 1990 года візітам у Морганаўскую фундацыю міністра замежных спраў БССР П.Краўчанкі, якога суправаджалі А.Мальдзіс і супрацоўнік беларускага прадстаўніцтва пры ААН У.Шчасны. Дырэктару фундацыі быў перададзены афіцыйны зварот наконт крыжа Еўфрасінні Полацкай. Міністр растлумачыў, што гаворка ідзе пра нацыянальную святыню. «Калі б яе ўдалося вярнуць на Радзіму,— сказаў пры гэтым П. Краўчанка,— няхай за выкуп, у аэрапорце рэліквію сустракалі б дзесяткі тысяч людзей».

Калі прыйдзе дзень такой сустрэчы і ці прыйдзе ён нагул?



Фрэска Спасаўскай царквы XII ст. у Полацку.
Маркуюць, што гэта выява самой найпадобнейшай Еўфрасінні.
Фреска Спасской церкви XII в. в Полоцке.
Полагают, что это изображение самой преподобной Евфросинии.

Фрагменты фрэскавай размалёўкі XII ст. у Спасаўскай царкве. >
Фрагменты фресковой росписи XII в. в Спасской церкви.



«Барысаў камень», помнік эпіграфікі XII ст.
«Борисов камень», памятник эпиграфики XII в.







Крыж святой Еўфрасінні, створаны Лазарам Богшам у 1161 г.
Крест святой Евфросинии, созданный Лазарем Богшей в 1161 г.

< Каменны абразок XII ст. з выявамі святых Канстанціна
і Алены, знойдзены археолагамі ў Полацку.
Каменная иконка XII в. с изображениями святых Константина
и Елены, найденная археологами в Полоцке.

**Фрагменты надпісаў на срэбных бакавых пласцінах крыжа.**
*Здымак канца 20-х гадоў.*
**Фрагменты надписей на серебряных боковых пластинах креста.**
*Снимок конца 20-х годов.*





Кіеў развітваецца з мошчамі святой Еўфрасінні, ігуменні полацкай.
*Красавік 1910 г.*
Киев прощается с мощами святой Евфросинии, игуменьи полоцкой.
*Апрель 1910 г.*



Святары нясуць ра̀ку з мошчамі.
*Ваколіцы Полацка, 21 траўня 1910 г.*
Священнослужители несут ра̀ку с мощами.
*Окрестности Полоцка, 21 мая 1910 г.*



Хросны ход на Чырвоным мосце ў Полацку.
Крестный ход на Красном мосту в Полоцке.



Пачатак хроснага ходу з мошчамі святой Еўфрасінні
з Мікалаеўскага сабора ў Спасаўскі манастыр.
*22 траўня 1910 г.*
Начало крестного хода с мощами святой Евфросинии
из Николаевского собора в Спасский монастырь.
*22 мая 1910 г.*



Від на Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр з боку ракі Палаты.
Вид на Спасо-Евфросиньевский монастырь со стороны реки Полоты.




Від на Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр з боку горада.
Вид на Спасо-Евфросиньевский монастырь со стороны города.




Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр.
Спасо-Евфросиньевский монастырь.

Міністэрства замежных спраў Беларусі атрымала афіцыйны адказ, што ў самой фундацыі Моргана крыжа няма. Але ж у радзіны Морганаў ёсць і прыватныя зборы, а за іх, як вынікае з прысланага дакумента, адміністрацыя не адказвае...

Аўтар спадзяецца, што чытачы дапамогуць у далейшых пошуках. Вядомыя вам факты просьба паведаміць у камісію па вяртанні нацыянальных каштоўнасцяў, што створана пры Беларускім фондзе культуры. Можна звяртацца і непасрэдна ў Інтэрпол, што нядаўна таксама заняўся пошукам нашае святыні, зарэгістраваўшы яе пад нумарам 34—1130.

## Пра што маўчыць «Жыціе»



ўфрасіння, як і іншыя ўсходнеславянскія падзвіжнікі, ніколі не губляла сувязяў з народам, была яму настаўніцай і суддзёй.

Створанае паводле канонаў свайго жанру «Жыціе» маўчыць пра драматычныя падзеі, якія ў той час адбываліся на зямлі нашых продкаў. Але асветніца, несумненна, была іх чыннай удзельніцаю, і амаль паўстагоддзя істотна ўплывала на палітыку Полацка.

Незалежная Полацкая зямля ў XII стагоддзі ўступіла ў заканамерны працэс феадальнага драблення на паасобныя ўдзелы: Менскі, Друцкі, Ізяслаўскі, Віцебскі, Лагойскі... У іх валадарылі сыны Усяслава і іхнія нашчадкі, якія вялі між сабою зацятую барацьбу за полацкі пасад. Сярод іх вылучаўся менскі князь Глеб Усяславіч, што працяглы час даволі паспяхова ваяваў з Уладзімірам Манамахам, але ўсё ж быў пераможаны і ў 1119 годзе памёр (відаць, не сваёй смерцю) у Кіеве.

У юнацтве Еўфрасіння была сведкаю паходу на Полацкую зямлю, арганізаванага наступнікам Манамаха вялікім кіеўскім князем Мсціславам. Тады, у 1127 годзе, аб'яднаныя сілы васьмі князёў да Полацка не дайшлі, але палачане

вымушаны былі прагнаць свайго князя Давыда з сынамі і прыняць, напэўна, больш дагоднага Кіеву Барыса Усяславіча. Праз два гады пасля гэтага Рагвалодавічы адмаўляюцца ісці на полаўцаў, і Мсціслаў высылае непакорлівых князёў у Візантыю.

Пад час высылкі Рагвалодавічаў ігумення Еўфрасіння заставалася, магчыма, адзінаю прадстаўніцаю полацкай дынастыі на радзіме. Кіеўскія стаўленікі рабавалі краіну, падрываючы эканамічную базу Полацкай зямлі, хадзілі паходамі на яе даннікаў, распраўляліся з прыхільнікамі адпраўленых у Візантыю князёў. Укрыўшыся за манастырскімі сценамі, асветніца была своеасаблівым сцягам змагання палачан за незалежнасць.

Цяжка меркаваць, ці брала Еўфрасіння непасрэдны ўдзел у вечавых сходах, але яе ўздзеянне на веча было вельмі значным. Праз яго ігумення ўплывала не толькі на запрашэнне ў Полацк князёў, але і на прызначэнне епіскапаў, бо веча павінна было ўхваліць прапанаваную кіеўскім мітрапалітам кандыдатуру.

Думаецца, менавіта са згоды Еўфрасінні, а можа, і за яе наказам у 1132 годзе жыхары Полацка выгналі прысланага з Кіева Святаполка Мсціславіча і абвясцілі сваім князем Васільку Святаславіча з дынастыі Рагвалодавічаў, які таемна вярнуўся з Візантыі або нейкім чынам здолеў пазбегнуць высылкі. «Полочане же рекше: «лишается нас» и выгнаша Святополка, а Василка посадиша Святославича»,— паведамляе пра гэтыя падзеі летапіс.

У якасці міратворыцы магла выступіць князёўна-ігумення і ў 1137 годзе, калі праўз Полацк праходзіў з дружынаю на Пскоў асуджаны наўгародцамі на выгнанне князь Усевалад Мсціславіч, сын таго самага Мсціслава, што высылаў Рагвалодавічаў у Візантыю. Полацкі валадар Васілька меў дастаткова сілаў, каб паквітацца з сынам за жорсткасць бацькі, але замест гэтага зычліва правёў Усевалада праз свае воласці і прысягнуў забыцца на даўнюю варажнечу. Наўрад ці без удзелу Еўфрасінні, якая імкнулася спыніць

спадчынную варожасць Рагвалодавічаў і нашчадкаў Яраслава Мудрага, абышоўся і шлюб дачкі полацкага князя Васількі з сынам прыязна прынятага ім Усевалада.

Надзеленая не толькі ясным розумам, але і моцнай воляю й рашучасцю, Еўфрасіння мела вялікую вагу ў вырашэнні палітычных пытанняў і надалей. Яна не магла стаяць убаку ад падзей 1151 года, калі полацкае веча адмовіла ў даверы князю Рагвалоду-Васілю і запрасіла з Менска Расціслава Глебавіча. Праз восем гадоў палачане зноў прынялі да сябе Рагвалода, што пачаў барацьбу з менскімі Глебавічамі. Пра гэта падрабязна апавядае Кіеўскі летапіс. Мы даведваемся, што ў Полацку «бысть мятеж велик ... мнози бо хотяху Рогволода». У горадзе ўзнікла змова супраць Расціслава. «Князе нашь,— пісалі палачане да Рагвалода,— согрешили есмь к Богу и к тебе, оже вестахом на тя без вины и жизнь твою всю разграбихом и твоея дружины, а самого емше выдахом тя Глебовичем на великую муку. Да еще ныне помянеши всего того, иже створихом своим безумием, и хрест к нам целуеши, то мы людие твое, а ты еси нашь князь, а Ростислава ти емши вдамы в руче <захапіўшы, аддамо табе ў рукі>, а еже хощеши, то створиши ему...»

Замах на Расціслава прызначылі на дзень святога Пятра, калі князя можна было выклікаць на братчыну ля царквы (старой) Багародзіцы. Аднак папярэджаны некім князь прыехаў, апрануўшы пад святочнае адзенне кальчугу і ўзяўшы з сабой вялікую ахову. На наступны дзень ягоных прыхільнікаў пазбівалі на вечы, а сам Расціслаў з дружынаю ўцёк і «многа зла створи волости Полотьской, воюя и скоты и челядь».

Аўтарытэт, што мела тады князёўна-ігуменя, дазваляе прылічыць яе да магчымых аўтараў ліста князю Рагвалоду-Васілю.

У тагачаснай складанай палітычнай сітуацыі Полацк спачатку ўваходзіць у саюз са Смаленскам, потым змагаецца супроць нядаўніх хаўруснікаў з дапамогаю дружынаў

чарнігаўскіх князёў. Усобіцы працягваюцца з пераменным поспехам. Вялікіх ахвяраў каштавала ў 1162 годзе бітва Рагвалода з Валадаром. Пад 1167 годам летапіс паведамляе, што менскаму князю Валадару ўдалося ненадоўга захапіць Полацк.

Патрыётка сваёй зямлі, Еўфрасіння не магла не прымаць усіх яе нягодаў блізка да сэрца. «Жыціе» кажа, што яна «ни хотяше видети никого же котораюощася <у стане варожасці>: ні князя со князем, ни бояри с боярином, ни служанина со служанином — но всех хотяше имети, яко едину душю».

У апошнія гады жыцця асветніцы ў Полацку княжыў Усяслаў Васількавіч. Еўфрасіння параўноўвала гэтага князя са сваім славутым дзедам, ягоным аднайменнікам. Лёгка здагадацца, што параўнанне было не на карысць Усяслава II. І ўсё ж яму, пэўна, не без дапамогі князёўны-ігуменні, удаецца прыцішыць міжусобныя спрэчкі Рагвалодавічаў (у канцы княжання Усяслава Васількавіча шэсць полацкіх князёў бралі ўдзел у паходзе на Друцк, дзе сядзеў смаленскі стаўленік).

Магчыма, адносны спакой у Полацкай зямлі таксама паўплываў на рашэнне Еўфрасінні зрабіць падарожжа ў Ерусалім.

Асветніца добра разумела, што замірэнне гэтае — часовае і на змену яму прыйдуць новыя братазабойчыя войны, вынікі якіх могуць быць катастрафічнымі. Мы ўжо адзначалі тоеснасць ідэй знакамітай палачанкі і аўтара «Слова пра паход Ігаравы».

Князевы міжусобіцы — згуба
для нас ад паганых. Казаць стаў
брат брату: гэта маё і тое ж маё!

Яраслаўле і ўсе ўнукі Усяслаў-
левы! Апусціце ўжо сцягі свае!
Пахавайце мячы свае пашчарбаныя!
Вы бо сваімі нязгодамі пачалі на-
водзіць паганых на Рускую зямлю,

на надзел Усяслава, ад чаго і
насілле пайшло ад зямлі
Палавецкай*.

Паміж смерцю асветніцы і нараджэннем выдатнага твора нашай старажытнай літаратуры мінулася каля дваццаці гадоў, але мы маем поўнае права сцвярджаць, што такія думкі маглі належаць і Еўфрасінні.

## Апошняя дарога



На схіле жыцця Еўфрасіння вырашыла здзейсніць духоўны подзвіг паломніцтва ў Святую Зямлю. Брат Вячаслаў з іншымі сваякамі і ўсе жыхары Полацка, сабраўшыся ў Спасаўскім манастыры, прасілі ігуменню не пакідаць іх. Найпадобнейшая суцешыла землякоў, што паедзе маліцца за іх і за родную зямлю. Як мы ўжо ведаем, у тыя дні Еўфрасіння зрабіла Хрыстовымі нявестамі дзвюх сваіх пляменніц — Вольгу і Кірыяну.

Перадаўшы ігуменства малодшай сястры Еўдакіі, сама Еўфрасіння пачала рыхтавацца да ад'езду. У той час у далёкія вандраванні выпраўляліся зазвычай — каб запабегчы бездарожжа — на пачатку зімы або раннім летам. Выехаўшы з Полацка неўзабаве па Калядах, увесну можна было дасягнуць межаў Візантыі. Відаць, адсвяткаваўшы Нараджэнне Хрыстова, вырушылі ў дарогу і полацкія паломнікі.

Еўфрасінню суправаджалі стрыечная сястра Еўпраксія і брат Давыд. Спачатку падарожнікі, напэўна, ехалі па рэках на санях, а потым часткова сухазем'ем, часткова вадою, пераадольваючы за дзень 30—40 вёрстаў. Паўсюль ва ўсходнеславянскіх княствах славутую палачанку чакаў гасцінны прыём. На сваім шляху яна мела сустрэчу з візантыйскім

* Празаічны пераклад Янкі Купалы.

імператарам Мануілам Комнінам, які ішоў вайною на ўграў. Кесар прыняў сваячку вельмі прыязна і «съ великою честью посла ю <яе> въ Царьград». Там паломнікі наведалі сабор св. Сафіі, набылі залатое кадзіла, дарагія фіміямы і іншыя неабходныя ў Святых Мясцінах рэчы і, атрымаўшы ад патрыярха багаславенне, паехалі далей.

Між іншым, сустрэча Еўфрасінні з імператарам Мануілам дае пэўныя падставы паставіць пад сумненне прынятыя згодна «Жыцію» даты паломніцтва (1173) і смерці святой. Гэты візантыйскі кесар апошні раз ваяваў з уграмі ў 1167 годзе, прычым выйшаў у паход на Вялікдзень, 8 красавіка. Прыкладна ў той самы час абшараў ягонае дзяржавы павінны былі дапясці і полацкія паломнікі.

Звернем увагу яшчэ і на тое, што Еўфрасінніных пляменніц пастрыгаў у манастыр епіскап Дыянісій, які заняў полацкую катэдру пасля 1166 года. На аснове гэтых фактаў Леў Гарошка і іншыя даследчыкі прапануюць адмовіцца ад агульнапрынятае даты, якая ўвайшла ў энцыклапедыі, і лічыць годам смерці святой Еўфрасінні 1167-мы.

У канцы красавіка ігуменне і яе спадарожнікі прыйшлі да старажытных ерусалімскіх муроў. Паводле «Жыція», Еўфрасіння паслала свайго слугу Міхаіла да патрыярха прасіць, каб ёй адчынілі Хрыстовую браму. Пэўна, маецца на ўвазе Залатая брама, праз якую з боку Элеонскае гары Хрыстос увайшоў у горад у Вербную нядзелю.

Пад час паломніцтва найпадобнейшай князёўны-ігуменні Ерусалім належаў крыжакам, а валадарыў у ім кароль Амальрых I. Цікава, што гэты манарх, на думку некаторых гісторыкаў, таксама быў у сваяцтве з Еўфрасінняю (праўда, ужо ў вельмі далёкім) — праз жонку французскага караля Генрыха I Ганну, якая была дачкою Яраслава Мудрага, сына княгіні Рагнеды Рагвалодаўны. Апрача таго, Амальрых быў жанаты з пляменніцаю імператара Мануіла Комніна.

Усё гэта, відаць, спрыяла атрыманню дазволу. Еўфрасіння ўвайшла ў горад праз Хрыстовую браму і пайшла да труны Гасподняй, дзе шчыра малілася і кадзіла з залатой

кадзільніцы дарагімі фіміямамі. Пасяліўшыся ў манастыры святой Багародзіцы, полацкая паломніца прыходзіла туды тры дні запар. На трэці дзень яна пакінула на труне набытую ў Царгорадзе кадзільніцу і іншыя залатыя дарункі, а таксама шматлікія фіміямы і звярнулася да Госпада з малітваю, у якой прасіла, каб дазволіў ёй памерці ў святым горадзе, дзе адбылося збаўленне роду чалавечага.

У хуткім часе найпадобнейшая Еўфрасіння захварэла. Гэта не дазволіла ёй самой схадзіць на раку Іардан, і яна выправіла туды брата з сястрою і слугаў. Тыя прынеслі гаспадыні іарданскае вады, і паломніца, падняўшыся з ложка, напілася і акрапіла сябе ёю, а потым зноў легла, просячы Госпада хутчэй узяць да сябе яе душу.

«Жыціе» апавядае, што Усявышні паслаў да Еўфрасінні анёла, які паведаміў, што яе малітвы пачутыя і на небе ўжо чакаюць сустрэчы з ёю. Відаць, наследуючы Еўфрасінні Александрыйскай, якая пад выглядам мужчыны жыла і была пахаваная ў мужчынскім манастыры, полацкая ігумення выправіла слугу прасіць месца на пахаванне да архімандрыта ерусалімскага манастыра святога Савы. Адказ быў ветлівы, але адмоўны: статут манастыра, згодна волі свайго святога, забараняў хаваць жанчын. Архімандрыт параіў звярнуцца ў Феадосіеў манастыр св. Багародзіцы, дзе спачывалі астанкі мацярок святых Савы і Феадосія ды святых бяссрэбнікаў Казьмы і Даміяна. Еўфрасіння прыняла параду і купіла сабе там месца і дамавіну.

На дваццаць чацвёрты дзень хваробы яна адчула хуткі скон, паклікала святара і, паспавядаўшыся і прыняўшы прычасце, аддала сваю душу Усявышняму. «Давыд же и Евпраксия и с прочими спряташа тело ея честно». Пахаваўшы Еўфрасінню ў загадзя падрыхтаваным месцы, паломнікі павезлі журботную вестку ў Полацк.

У сціхірах* у гонар Еўфрасінні (па спісе канца XVI стагоддзя) пяецца:

---

* Сціхіра — царкоўны спеў у гонар свята або святога.

Яко винограде Рускои земли Полтеску граду,
насадив бого преже тебе,
ныне же принесе и преложи в землю обетованную,
преподобная Ефросиние, мнихомо удобрение.

Умертвивоши тело и душу оживила еси,
из земли отеческыя Полотскаго града,
воздвигоши во Сионе преиде
и всего своего богатества раздала еси,
и тамо приемоши небесеная.

## Вяртанне святыні



Гісторыя мошчаў святой Еўфрасінні — іх зварот на Бацькаўшчыну, блуканні па пакутах у гады «ваяўнічага атэізму» і канчатковае вяртанне ў Полацкі Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр — бадай, не менш цікавая, як само жыццё асветніцы.

Неўзабаве пасля смерці знакамітай полацкай паломніцы Святой Зямлі пачалі пагражаць магаметане. У 1187 годзе, рыхтуючыся да прыступу Ерусаліма, султан Саладзін за выкуп дазволіў хрысціянам пакінуць горад разам са сваімі рэліквіямі. Як велізарны скарб усходнеславянскія манахі везлі з сабою ра̀ку* з нятленнымі астанкамі Еўфрасінні.

Калі верыць паданню, чарняцы меліся перанесці святыню адразу ў Полацк, але гэтаму перашкодзіла адвечная варажнеча кіеўскіх і полацкіх князёў. Мошчы паклалі ў дальніх пячорах Кіеўскага Пячорскага манастыра ў падземным храме Звеставання Прасвятой Багародзіцы. Там рэліквіі давялося спачываць болей за сем стагоддзяў. На радзіме грымелі войны, занепадаў і зноў адраджаўся Спасаўскі манастыр, а тут панаваў вечны спакой. Вечка срэб-

---

* Ра̀ка — своеасаблівы куфар, дзе захоўваюцца святыя мошчы.

най ракі было адчыненае і прымацаванае да сцяны, астанкі найпадобнейшай Еўфрасінні — закрытыя покрывам; у галавах вісеў абраз святой і гарэла непагасная лампадка.

Першыя вядомыя нам спробы перанесці мошчы заступніцы Беларусі ў яе родны горад адбыліся ў царававанне імператара Аляксандра II.Пра гэта спачатку хадайнічалі жыхары Полацка, потым, у 1864 годзе, ад імя насельніцтва трынаццаці воласцяў Полацкага павета і, ведама ж, са сваімі, бясконца далёкімі ад хрысціянскай дабрачыннасці мэтамі — кат беларускага народа, душыцель нацыянальна-вызваленчага паўстання Кастуся Каліноўскага граф М.М.Мураўёў-Вешальнік. Пасля трэцяга хадайніцтва полацкага епіскапа Савы ў 1871 годзе з дазволу Свяцейшага Сінода вярнулася і 23 траўня ст. стылю, на дзень памяці святой, была ўрачыста перанесеная ў Спасаўскі манастыр невялікая частка мошчаў — сярэдні палец правай рукі.

Наступныя просьбы Пецярбург нязменна адхіляў, а за Аляксандрам III палачанам наогул забаранілі звяртацца ў вышэйшыя інстанцыі з такімі хадайніцтвамі. Духоўная і свецкая ўлады былі супраць вяртання рэліквіі, бо ведалі, што паводле векавой традыцыі Еўфрасінню Полацкую шанавалі як сваю святую і прыхільнікі гвалтоўна скасаванай царызмам Уніі.

Тым не менш просьбы аб пераносе мошчаў найпадобнейшай Еўфрасінні працягвалі ісці як з Полацка, так і з іншых гарадоў беларускіх губерняў. Два даклады на гэтую тэму былі прачытаныя ў 1908 годзе на Усерасійскім місіянерскім з'ездзе ў Кіеве. З'езд, удзельнікамі якога былі 30 праваслаўных іерархаў і каля 300 святароў, прыняў рэзалюцыю аб неабходнасці вяртання святыні ў Полацк. Аналагічныя пастановы пачалі прымацца на з'ездах вернікаў і духавенства па ўсёй Беларусі. Свяцейшы Сінод стварыў адмысловую камісію, якая нарэшце прыняла станоўчае рашэнне. Відаць, гэтаму ў нейкай меры паспрыяў і тагачасны дырэктар канцылярыі обер-пракурора Сінода ўраджэнец Полацкай епархіі В.Яцкевіч, які вывучаў жыццё і духоўныя

подзвігі Еўфрасінні і выступіў з дакладам на сінодавым пасяджэнні.

Мікалай II згадзіўся даць аўгусцейшы дазвол, але, відавочна, не без асцярогі. І цар, і Сінод цудоўна разумелі, што маюць справу «нябеснаю апякункаю Беларусі». Так Еўфрасінню часамі называла расейская прэса, хоць сама назва «Беларусь» у афіцыйных дакументах паводле царскага ўказа была яшчэ ў 1840-м (праз год пасля знішчэння Уніі) забароненая і замененая на «Северо-Западный край». У друку чуліся галасы пратэсту праваслаўна-рускіх патрыётаў. «Труды Кіевской Духовной Академіи», у прыватнасці, пісалі: «Каталікі, як вядома з гісторыі, схільныя прызнаць найпадобную Еўфрасінню святою свае царквы. Таму можна нават баяцца, каб праз планаваны перанос мошчаў... з Кіева ў Полацк не прычыніліся вялікія непрыемнасці і шкоды праваслаўю».

Адразу пасля дазволу вярнуць нятленныя астанкі пачалася прапагандысцкая кампанія, скіраваная на тое, каб будучая ўрачыстасць паслужыла «ўмацаванню праваслаўя ў Полацкім краі і барацьбе з каталіцызмам».

19 красавіка 1910 года, на другі дзень Вялікадня, у пячорным храме Звеставання, дзе спачывалі мошчы святой, адбылося ўсяночнае набажэнства. Назаўтра святыню пераклалі пасля літургіі ў новую кіпарысавую раку і вынеслі з пячоры да багамольцаў, якіх у Лаўры сабралася болей за 20 тысяч. 22 красавіка Кіеў развітваўся з полацкай князёўнаю. Газеты паведамлялі, што жыхары горада запоўнілі вуліцы і схілы пагоркаў, галубцы і дахі дамоў. Па дарозе з Лаўры да Дняпра стаялі вайсковыя шыхты.

На перавоз мошчаў былі прызначаныя дзяржаўныя параходы: «Галавачоў» — для самой рэліквіі, «Кіеў» і «Аляксандраўск» — для асобаў, якія яе суправаджалі. У насавой частцы аздобленага кветкамі, маем і сцягамі флагмана гэтай флатыліі стаяла капліца з люстранымі вокнамі, абапал яе — дзве залатыя харугвы. Раку з мошчамі паставілі на карме сляпуча белага карабля пад полагам.

Пад спевы трапара* ў гонар Еўфрасінні караблі адышлі ад берага і пачалі сваё ўрачыстае падарожжа. (Варта зазначыць, што ў Кіева-Пячорскай лаўры засталася сімвалічная частка астанкаў святой. Яна захоўваецца на старым месцы ў падземнай царкве і цяпер, па-ранейшаму прывабліваючы праваслаўных паломнікаў. Але гэты факт, безумоўна, не дае падставаў сцвярджаць, што мошчы святой Еўфрасінні Полацкай спачываюць у Кіеве, як паведамляюць некаторыя ўкраінскія публікацыі. На жаль, такую памылку зрабіла і «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі».)

Флатылія з мошчамі прайшла па Дняпры ад Кіева да Оршы 695 вёрстаў, паўсюль сустраканая сціжмамі вернікаў. Асабліва маляўніча гэта выглядала ўначы, калі на берагах, ля самае вады, гарэлі зыркія вогнішчы, параходы мігцелі сотнямі агеньчыкаў свечак, якія адбіваліся ў люстрах каплі-цы, а на вяршыні фок-слямгі флагманскага карабля ззяў крыж.

У гарадах Любечы, Рэчыцы, Рагачове, Старым Быхаве, Магілёве і Оршы флатылія спынялася і адпраўляліся ўрачыстыя набажэнствы, якія збіралі велізарную колькасць багамольцаў і паломнікаў з усяго Прыдняпроўя. З Оршы да роднага Полацка мошчы святой падарожнічалі сухазем'ем. Пад перазвон усіх гарадскіх званоў рэліквію змясцілі спачатку ў катэдральным Мікалаеўскім саборы. 22 траўня па дарозе ў Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр урачыстая працэсія расцягнулася на дзве вярсты.

Аб тым, якое значэнне надавалі пераносу мошчаў святой Еўфрасінні царскія ўлады, сведчыць удзел у хросным ходзе вялікага князя Канстанціна, які прадстаўляў самога імператара, а таксама каралевы Грэцыі Вольгі Канстанцінаўны і вялікай княгіні Елізаветы Фёдараўны, роднай сястры царыцы.

У змураваным некалі на заказ ігуменні Еўфрасінні Спаса-Праабражэнскім храме святыню змясцілі ў кіпарысавай

---

* Трапар — кароткі царкоўны спеў у гонар свята або святога.

рацы, абкладзенай срэбрам, аздобленай пазлачонымі чаканнымі барэльефамі, а таксама эмалевымі выявамі крыжоў і арнаментаў. Рака была зробленая ў візантыйскім стылі на добраахвотныя ахвяраванні вернікаў і каштавала велізарныя на той час грошы — 12 тысяч рублёў.

Так 23 траўня 1910 года, у дзень памяці святой Еўфрасінні, яе нятленныя астанкі вярнуліся ў Спасаўскі манастыр.

Да ўрачыстае падзеі гарадское царкоўнае брацтва выдала «Путеводитель по городу Полоцку». Сярод змешчаных у гэтым даведніку разнастайных звестак знаходзім і паведамленні пра дзейнасць на радзіме асветніцы Спаса-Еўфрасіннеўскага жаночага епархіяльнага вучылішча і самога царкоўнага брацтва ў імя святога Мікалая і найпадобнейшай Еўфрасінні, што працягвала дабрачынныя традыцыі падзвіжніцы, утрымліваючы жаночую багадзельню і дзіцячы сіроцкі прытулак, на карысць якога і быў выпушчаны «Путеводитель».

Тады ж у полацкай друкарні Х.Клячко выйшаў таксама прымеркаваны да пераносу мошчаў кароткі гістарычны нарыс «Минувшее и настоящее г.Полацка». Яго аўтар Н.Зорын карыстаецца выпадкам, каб нагадаць землякам пра занядбанне Сафійскага сабора, дзе некалі жыла святая: «Суровый упрек несется к нам с высот Верхнего замка от храма св.Софии Премудрости Божьей. Печальный, обезглавленный стихией, почти оставленный и полузабытый (службы в нем совершаются только в течение одного мая месяца), разрушенный беспощадным временем — этот храм, дорогое сокровище и сердце древнего Полоцка, теперь с нахсдящимися вокруг него развалинами когда-то красивого и величественного здания, производит самое тяжелое впечатление на наблюдателя и вызывает краску стыда и чувство горькой обиды...»

Звычайна мошчы святых выяўляюць цудадзейную сілу. Пра адно з дзівосаў, што адбылося пад час пераносу астан-

каў Еўфрасінні, пакінулі звесткі полацкі краязнаўца, сябра Віцебскай вучонай архіўнай камісіі Н.Кайгародаў і старэйшы лекар Полацкага кадэцкага корпуса доктар медыцыны А.Мансветаў. Паводле іх, у Спасаўскім манастыры жыла чарніца, якая цяжка хварэла на верад страўніка і праз цяжкія нутраныя крывацечы і крывавыя ваніты так знясілела, што ўжо амаль не падымалася з ложка. Доктар страціў усялякую надзею выратаваць хворую; ейнае цела было ў пролежнях, а боль сунімалі наркотыкамі.

Калі ў манастыр прыбылі нятленныя астанкі Еўфрасінні, іх спачатку паставілі ва Узвіжанскай царкве. Па ўсяночнай вернікі стварылі да рэліквіі велізарную чаргу. Манастырскія сёстры, выконваючы просьбу хворай, прывялі яе ў храм і ўзнялі на памост, дзе яна прыхінулася да мошчаў і пацалавала руку святой Еўфрасінні. Пасля гэтага манашка адчула такі прыліў сіл, што здолела падняцца і ісці без усякай дапамогі. Назаўтра, у часе чарговага візіту да хворай, доктар Мансветаў сустрэў пацыентку на двары, прычым яна ўжо не мела ніякіх відочных прыкметаў немачы. Доктар прызнаецца, што ў гэтым выпадку сустрэўся са з'яваю, якая пераходзіць межы людскога разумення.

Манастырская хроніка тых часоў, на жаль, не захавалася. Магчыма, Еўфрасіння працягвала чыніць дзівосы, але ўжо з непазбежнасцю чорнай навальнічнае хмары насоўвалася іншая эпоха. XX стагоддзе наканавала святыні не спакой, а пакуты.

Пасля бальшавіцкага перавароту 1917 года, калі пачалася бязлітасная вайна супроць рэлігіі, святыя мясціны і рэліквіі зазналі на сабе варварства і нечуваныя здзекі новае ўлады. Драма не абмінула і Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра.

Люты 1919-га. Народны камісарыят юстыцыі РСФСР выдае пастанову аб арганізаваным ускрыцці мошчаў цудатворцаў па ўсёй краіне. Выкананне бязбожнага рашэння затрымліваецца толькі з прычыны грамадзянскае вайны.

У 1922 годзе адбылося злачыннае ўскрыццё дамавіны з мошчамі святой Еўфрасінні. У фондах Полацкага гістарычна-археалагічнага запаведніка захаваліся дакументы, што распавядаюць пра гэтае страшэннае блюзнерства.

ПРОТОКОЛ

вскрытия и освидетельствования мощей Ефросинии комиссией, выделенной согласно постановлению Полоцкого уездисполкома, утвержденному губисполкомом, состоявшегося 13 мая 1922 г. в гор.Полоцке в Спасо-Ефросиньевском монастыре.

Присутствовали: от уездисполкома т.Хомяков, от укома т.Лейман, от Союза Молодежи т.Пискунов, от женотдела т.Барановская, от уездздрава доктор Ленский, ученый-археолог Дейнис, представители красноармейских частей и представители духовенства — священники Черепнин, Покровский, игуменья Елена, казначей общины Ксунина Лариса, монахини, представители верующих, городского населения и крестьян.

В 14 час. коллективно, в присутствии вышеперечисленных и членов комиссии уездисполкома т.Ткачева, начальника и военкома 43-х полоцких ком. курсов т.Фабрициуса, военкома 41-го полка т.Дмитриева, представителя губотдела юстиции т.Шефкуна, члена губисполкома т.Григорьева, представителя губполитуправления т.Секса, врачей: Ленского, Христенсена, Лундберга, ученого-археолога Дейниса, игуменьи и монахинь монастыря; последние приступили к освобождению мощей от облачения.

По наружному виду в гробу лежит нечто имеющее форму человека. По снятии застежек и схимьи, изготовленной в 1910 г., обнажается другая одежда — мантия. Фигура лежит в голубом шелковом ваточнике, видны сложенные накрест руки, в красных ватных перчатках. Ноги обуты в красные шелковые туфли. Голова завернута — сначала ватный чехол розово-полосатого шелка, затем парчовый колпак и красно-шелковый чехол.

Под снятой одеждой находится хитон, шелковый, лилового цвета. Вся фигура обложена — по заявлению монахинь, во избежание тряски при перевозке — парчовыми скуфьями и разными частями церковных одежд. По снятии шелковой сорочки найдена записка современного происхождения, подписанная иереем Клавдием. Кроме того, найдеты четки (янтарные), по заявлению монахинь, привезенные с мощами из Иерусалима. Из-под сорочки обнажается костяк, завернутый в шелковые лоскуты. Череп без волос вплотную приложен к туловищу, но с ним не связан. Грудная клетка изломана, кое-где на остатках ребер сохранились заплесневшие и мумифицировавшиеся части мышечной ткани и кожи. Часть ребер провалилась внутрь и подперта каким-то материалом, по развертывании оказавшимся частями парчовых облачений. На реплику одного из присутствующих «Развязывайте скорее» монахиня Неонила заявляет: «Не торопитесь, вас больше ждали», другая заявляет: «Тут ничего нет, одне косточки». Священник Пестман, оттиснутый присутствующими в сторону, настаивает на своем праве быть впереди и удовлетворяется.

### *Заключение врачебно-научной экспертизы*

Доктор Христенсен устанавливает, что череп отделен от туловища вследствие разрушения связочного аппарата; разрушения связочного аппарата — от тления. В середине череп пустой. Лицевая сторона черепа замазана какой-то мастикой давнего происхождения в области глаз, век и верхней челюсти, по предположению врачей — с целю туалета, дабы сгладить неприятное впечатление и придать форму лицу. Больше мастики нигде не замечается. На грудной клетке местами покрытая плесенью незначительно высохшая кожа. На суставах сухожилия мумифицировались и связывают некоторые суставы. По мнению врачебной экспертизы, все кости принадлежат одному трупу; волос нигде нет. Зубы имеются лишь только в верхней челюсти. Труп мумифицировался вследствие благоприятных почвенных условий. Дав-

ность мумифицированного трупа установить невозможно, но науке известно, что при благоприятных почвенных условиях трупы сохраняются от 10 до 1000 лет, постепенно подвергаясь разрушению. С указанным мнением согласны и вполне солидарны врачи Лянсберг, Калашников и Ленский.

Ученый-археолог Дейнис считает, что труп плохо сохранился, так как он видел и более хорошо сохранившиеся мумии египетского происхождения. Возможно, что последние более сохранились вследствие искусственной мумификации, тогда как этот труп подвергался мумификации почвенной.

Крест, одетый на костях, недавнего происхождения; в разные моменты произведены фотографические снимки фотографами Бермантом и Соловейчиком.

Подписи председателя и членов комиссии

### *Текст записки иерея Клавдия, найденной при вскрытии «мощей» Евфросинии Полоцкой*

Ея рубашка без нужды от тела не отнимается, кроме когда потребуется отнятие частиц ее тела, только тогда развернуть ея. А для просушки тела не нужно развертывать, так как воздух пройдет сквозь ея.

Мы не дерзали никогда раскрывать святое тело препод<обной> матер<и> нашей Ефросинии, только тогда, когда свидетельствовали ея.

*Иер<ей> Клавдий*

Пасля ўскрыцця мошчы адправілі на атэістычную выставу ў Маскву, адтуль — у Віцебск, дзе іх дэманстравалі ў мясцовым краязнаўчым музеі. За год да гэтага ў Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры былі рэквізаваныя ўсе каштоўнасці і сярод іх срэбная рака вагою 40 пудоў, у якой ляжала святыня.

У нямецкую акупацыю, калі былі зноў адчынены храмы і аднаўлены манастыры, віцябляне перанеслі нятленныя астанкі з музея ў Свята-Пакроўскую царкву. 23 кастрычніка

1943 года яны ўрачыста вярнуліся ў Полацк. Рабілася гэта з дазволу і з дапамогаю акупацыйных уладаў: рэліквію суправаджаў прадстаўнік штандарткамендатуры, у дзень прыбыцця цягніка з мошчамі ў горадзе адмянілі каменданцкую гадзіну. (Было б, вядома, наіўна казаць, што акупанты клапаціліся пра беларускую культуру — яны мелі свой разлік.)

Непасрэдны ўдзельнік тых падзей літаратар і дзеяч паваеннай беларускай эміграцыі Юры Стукаліч (Юрка Віцьбіч) у сваёй выдадзенай у Нью-Йорку ў 1975 годзе кнізе «Мы дойдзем!» прыгадваў:

«Познім вечарам з Віцебска ў Полацак прыйшоў вагон з мошчамі св. Еўфрасінні. Нягледзячы на каменданцкую гадзіну, калі жыхарам забаранялася выходзіць на вуліцу, камендант Полацка дазволіў двум святарам і чатыром міранам, паміж імі быў і я... праводзіць мошчы з чыгуначнай станцыі ў сабор св. Сафіі.

Ужо была ноч, калі мы з цяжкасцямі ўсклалі старадаўнюю дубовую дамавіну-калоду на засланую дыванамі фурманку.

Наперадзе і пазадзі нас ішлі па двух нямецкіх салдатаў, якія нібы сачылі за намі, каб мы не зрабілі нейкай дыверсіі, ні то ахоўвалі нас ад сустрэчных немцаў. Мы ішлі за фурманкай і спявалі сціхіру: *«Весяліся, манастыр Спасаў, і светла лікуй, зямля Полацкая».*

Наступным днём адбылося перанясенне мошчаў з Сафійскага сабора ў царкву Спаса... Фронт знаходзіўся за 36 кіламетраў ад Полацка на станцыі Дрэтунь. Таму спачатку камендант дазволіў, каб працэсія складалася з пару дзесяткаў асобаў... пазней пагадзіўся на больш колькасную працэсію. Замест шматлікіх святароў, ішлі ў сваіх пасхальных рызах толькі айцы Антоній і Мадэст. Невялічкі дзявочы хор Сафійскага сабора спяваў «Сёння святло красуецца старажытны горад Полацак».

Вернікаў, нават у поўразбураным вайной Полацку, сабралося больш чым меркавалася, між імі шлі я і мая маці, якая час ад часу шаптала:

— Дазволіў Гасподзь і мне грэшнай спадарожнічаць Табе, слаўная маці нашая Еўфрасіння...

Калі мы дайшлі да манастыра, у каторым не званілі званы, бо іх разбілі бальшавікі, то пабачылі, што па старадаўняму беларускаму звычаю дарожку да царквы Спаса выслалі льняною тканінаю, а насустрач нам выйшлі манашкі Еўпраксія і Леаніла. Іх падтрымоўвалі пад рукі, а яны з слязьмі... галасілі:

— Дамоў варочаешся, нашая маці ігуменья. Дзякуем табе, Госпадзі Ісусе Хрысьце, што дазволіў нам дажыць да гэтага радавання...»

З таго часу мошчы святой Еўфрасінні спачываюць у Спасаўскім храме.

## Патронка Беларусі



Ужо неўзабаве пасля смерці найпадобнейшай Еўфрасінні ў гонар яе былі складзеныя трапар і сціхіра. Канцом таго самага XII стагоддзя датуецца і стварэнне яе «Жыція». Гэта магло адбыцца толькі пры ўмове далучэння полацкай ігуменні да ліку святых. Палачане прызналі сваю асветніцу святой і пачалі шанаваць яе восем стагоддзяў таму. Тымі часамі кананізацыя на ўсходнеславянскіх землях, як і наогул у праваслаўі, адбывалася досыць проста і залежала найперш ад мясцовага епіскапа. У гэтым акце ўвасаблялася агульная думка клера і вернікаў. Няма сумненняў, што ацэнка палачанамі жыцця і подзвігаў Еўфрасінні была аднадушнаю. Аўтар «Жыція», сам палачанін, выказаў яе ў натхнёным хваласпеве, якім скончыў свой твор: «Якою мовай, братове, уславіць мне светлую памяць найблажэннейшай нявесты Хрыстовай Еўфрасінні! Была яна памочніца пакрыўджаным, зажураным суцяшэнне, распранутым адзенне, хворым наведванне ці, проста кажучы,— для ўсіх была ўсім. Еўфрасіння сэрца

сваё ўспойвала Божаю мудрасцю. Еўфрасіння — неўвядальная кветка райскага саду. Еўфрасіння — арол, што, лунаючы ў небе, праляцеў ад захаду да ўсходу, як прамень сонечны, прасвятліўшы зямлю Полацкую. Тым жа, братове, пахваляецца Селунь аб святым Дзімітрыі, а Вышгарад — пакутнікамі Барысам і Глебам; я ж пахваляюся: шчасны ты, горадзе Полацку, што ўзрасціў парастак такі — найпадобнейшую Еўфрасінню».

Прызнанне святасці князёўны-ігуменні магло адбыцца ўжо пры полацкім епіскапе Дыянісіі (каля 1166—1182). За святую ўважалі Еўфрасінню і ў Ерусаліме. Невыпадкова ж, ратуючыся ад сарацынаў, праваслаўныя манахі вынеслі з сабою са Святой Зямлі і нятленныя астанкі славутай палачанкі.

Цягам колькіх стагоддзяў найпадобнейшая Еўфрасіння лічылася мясцовай святой. Але Полацк да сярэдзіны ХУІ стагоддзя быў галоўным духоўным асяродкам беларускіх земляў, і культ князёўны-ігуменні пашыраўся па ўсёй Беларусі. Паступова святая Еўфрасіння зрабілася ў свядомасці вернікаў нябеснаю заступніцай — патронкаю не толькі Полацка, але і ўсёй Бацькаўшчыны.

Вызначыць, калі гэта адбылося, наўрад магчыма. Аднак неабходна зазначыць, што на ролю апекуноў-патронаў Беларусі прэтэндавалі і іншыя святыя — Казімір, Параскева Полацкая. Культ св.Казіміра сёння пашыраны пераважна сярод беларусаў-католікаў на Віленшчыне і ў прылеглых раёнах Рэспублікі Беларусь. Што да шанавання святой Параскевы Полацкай, дык пасля скасавання Уніі яе культ намаганнямі Расейскай праваслаўнай царквы быў перанесены на святую Параскеву Пятніцу. Польскія ўлады да 1939 года намагаліся пашырыць на заходнебеларускіх землях культ святога пакутніка Андрэя Баболі як патрона Беларусі. Рабілася гэта з пэўнаю палітычнаю мэтаю паланізацыі краю, але вернікі не прынялі такога патрона.

Сцверджанню полацкай асветніцы як нябеснай апякункі Бацькаўшчыны спрыяла нацыянальнае адраджэнне пачатку

